

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПОЛАЦКІ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК

МУЗЕЙ-БІБЛІЯТЭКА СІМЯОНА ПОЛАЦКАГА

*Да 380-годдзя Сімяона Полацкага*

# СІМЯОН ПОЛАЦКІ: СВЕТАПОГЛЯД, ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТАРАТУРНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

*матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі*



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПОЛАЦКІ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ
МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК

*Да 380-годдзя
Сімяона Полацкага*

# СІМЯОН ПОЛАЦКІ: СВЕТАПОГЛЯД, ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТАРАТУРНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

(матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі
19–20 лістапада 2009 г.)

Полацк 2010

**63.3(4Беі)**
**С37**

Укладальнікі: ***А.У. Шумовіч***
***В.А. Шульчанка***

**С37** **Сімяон Полацкі: светапогляд, грамадска-палітычная і літаратурная дзейнасць** (матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі 19–20 лістапада 2009 г.). — Полацк: НПГКМЗ, 2010. — 234 с.: іл.

Зборнік змяшчае матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 380-годдзю Сімяона Полацкага, якая адбылася ў лістападзе 2009 г. у Музеі-бібліятэцы Сімяона Полацкага.

**63.3(4Беі)+79.1(4Беі)**

Асаблівасці мовы і арфаграфіі аўтараў захаваны

© Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны
музей-запаведнік, 2010



# ПАДСУМАВАННЕ

1. Звярнуцца ў Полацкі гарвыканкам з прапановай аб наданні адной з вуліц горада імя Сімяона Полацкага.

2. Звярнуцца ў музеі і бібліятэкі Расіі, Украіны і іншых краін з мэтай папаўнення экспазіцыі Музея-бібліятэкі Сімяона Полацкага.

3. Прасіць Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь уключыць у план выдавецкай дзейнасці:

а) перавыданне кнігі І. Татарскага «Симеон Полоцкий»;

б) выданне дыска з запісам «Псалтири» Сімяона Полацкага;

в) выданне каталога калекцыі С.Л. Міхейкі.

4. Прасіць Нацыянальны камітэт славістаў ініцыіраваць даклад пра Сімяона Полацкага на пленарным пасяджэнні XV Міжнароднага з’езда славістаў, які адбудзецца ў Мінску ў 2013 годзе, або правядзення навуковага пасяджэння падчас таго ж з’езда.



# СТАРАЖЫТНЫЯ ПОЛАЦКІЯ ЕВАНГЕЛЛІ-АПРАКАСЫ: ЛІНГВІСТЫЧНЫЯ І ТЭКСТАЛАГІЧНЫЯ АДМЕТНАСЦІ

*Будзько І.У.*

Гістарычная Полаччына адыграла вырашальную ролю ў развіцці і распаўсюджванні кірыла-мяфодзіеўскай літаратурна-пісьмовай традыцыі на ўсходнеславянскіх землях. У выніку гістарычных катаклізмаў, войн, разбурэння і вынішчэння гэтага рэгіёну шматлікія пісьмовыя здабыткі мінулых часоў аказаліся па-за межамі Полацка і нават Беларусі. Сёння мы вывучаем рукапісы старажытных евангелляў, якія захоўваюцца ў кнігасховішчах Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кіева, імкнучыся вылучыць сярод іх тыя, якія былі перапісаны ў культурным цэнтры старажытных крывічоў.

*Полацкае евангелле к. XII ст.* (ПЕ). Рукапіс некалі належаў Троіцкаму манастыру ў Полацку, захавалася 170 аркушаў, няма па крайняй меры адной пятай часткі тэксту. Рукапіс напісаны ўставам, ініцыяльныя застаўкі візантыйскага ўзору. Па тыпалогіі апракасаў — поўны. Лінгвістычныя асаблівасці тэксту даюць падставу лакалізаваць помнік паўночна-ўсходняй часткай беларускіх зямель. Самыя яскравыя прыкметы: цоканне і аканне.

Асаблівасці дыстрыбуцыі некаторых варыянтных графем у ПЕ заключаюцца ў наступным. У помніку назіраецца сталая замена ѫ (ѭ) на *оу*, у рэдкіх выпадках на *ꙋ* і ȣ: вѣроуюцимъ, бл҃хоу, сапогоу, соуть, идоуща, моужь, осоужение, ѿсоудоу, ѿкоудоу, въ славоу, бл҃хоу, (на) недоужьнъıихъ, гл҃хоу, соуботѣ, коупиша, стоуденьць; мьздоу, имоуть, водоу живоу, моужа; вѣроу, юмȣ; нявытрыманасцю нормы ха-





рактарызуецца ўжыванне ю на месцы ѫ пасля шыпячых і ц: вънложю, ѿрѣшю, нечю (АЕ[1] — нечоу), оцю, чюдесъ (АЕ — чоудесъ), въскрѣшю; у пазіцыях пасля *j* стала пішацца ю: юже, бесѣдоуюцема, свою, змию, смоковьницею. Пры вывучэнні асаблівасцей дыстрыбуцыі графем, якія адлюстроўвалі названы галосны гук, заўважана, што варыянты *у* і ȣ сустракаюцца пераважна толькі ў канцы радка (графемы ȣ выключна ў канцы): кокошниць оукрȣ / хъ, не повѣжь никомȣ /, пакы възложи рȣ / цѣ і інш. Юс вялікі сустракаецца спарадычна, асаблівай спецыфікі ў яго ўжыванні не заўважана: на овчи кѫпели, месиѫ. Замена оу на ү таксама абумоўлена пазіцыяй графемы ў тэксце: бліжэй да канца радка назіраецца вялікая колькасць такіх замен. Напрыклад, и пасха и искахү /, же ютери к немү рѣ /, рече к томүже не /, въсѧ гдн҃ъ домү реч /, ше ютери къ іс҃ү /, и начаша въ кұпь / і г.д. Такім чынам, дыстрыбуцыя названых графічных сродкаў у пераважнай большасці залежала ад чыста тэхнічных прычын: калі трэба было сэканоміць месца ў радку, пісец рэдукаваў дыграф або пісаў графему ȣ.

Аналагічна можа растлумачыць варыянтнае напісанне графем и / ї, о / ѡ, якія ўжываліся для абазначэння гука [і], [о] адпаведна. Па ўсім помніку пераважае літара и: въниде, братиꙗ, тържьникомъ, и реч, имамъ і г.д., літара ї ўжываецца ў канцы радка: много дн҃ии и блї /, нѣ же вашемь пї /, ще же невѣроуюшї / мъ, ници и мытари прї / шьдъше, зоумѣваꙗ ю и прї / носить; истиною ибо ѡ / ць, столоу соудаще ѡ / бѣманадѣсѧте, нъ тъкмо иѣреѡ / мъ, ища покоꙗ и не ѡ / брѣтаюшь. У позніх рукапісах такой заканамернасці не назіраецца. Відавочна, перарвана традыцыя.

На *марфалагічным узроўні* выяўлены наступныя асаблівасці:

а) флексія *-ови/еви* ў назоўніках м.р. у форме

[1] Остромирово Евангелие 1056–57 гг. Факсимильное воспроизведение. — Ленинград — Москва, 1988.





*Datsg* скланення на **o/*jo*: **бв҃и** (але сустракаецца і **бо҃у**), **иерѣови, (ꙗвисѧ) мирови, къ і҃сви, архитриклинови, иоанови, архисоунагогови, кесареви**;

б) флексія *-и* ў форме *Gsg* назоўнікаў скланення на **o/*jo*: **ꙗко приближисѧ къ вратомъ градоу**, тут жа **народъ многъ бѣ ѿ града с нею**;

в) канчатак *-ть* у дзеясловаў *3sg* і *pl*: **дасть, имать, разоумѣеть, прикасаютъ бо сѧ, молѧхоуть**; аднойчы памылкова прэзентнай аснове нададзена флексія інфінітыва: **сътворѧти** (замест **створѧть**);

г) звяртае на сябе ўвагу і спецыфіка дзеяслоўнага кіравання: *Acc* часта замяняецца на *Gen*: **имать … живота вѣчьнаго** (замест **животъ**), **дасть … хлѣба истиньнаго** (замест **хлѣбъ**); дадзеная марфалагічная рыса лакалізуецца сёння цэнтральнымі і паўднёва-заходнімі беларускімі гаворкамі, але спарадычна сустракаецца на Магілёўшчыне і Полаччыне — 1, к. № 211);

д) зваротны займеннік *себе* ў формах *Dat-Abl* у ПЕ адзначаецца ў формах, якія адпавядаюць старaславянскай норме, за некалькімі выключэннямі: **та бесѣдоваше къ собѣ о всѣ** (чытанне на аўторак светлага тыдня); **не могоу азъ творити о собѣ ничсоже** (чытанне ў чацвер другога тыдня пасля Вялікадня); **юже видѧще о собѣ вѣсте оубо ꙗко ѡ҃цю своемоу**; **напамѧть ї собѣ и дитѧти**.

Сярод лакальных рыс, адзначаных у ПЕ, звярнулі на сябе ўвагу наступныя:

а) пераход *ие (а) > je (а)*: **тиверьꙗдьскаго, абье, пьете, пьꙗи, пьеть, пьꙗ, оубьеть, самарьискъ, дн҃ью, льстью, вѣтвье, людье, татье, кръвью, велью** і інш.;

б) цоканне (нераспадабненне і ўзаемазамена фанем *ц* і *ч*): **наричаеться, наричаемъіи, чѧта,члвцьскаго, чловцскъ, въ оцесѣ, личемѣри, пцѣтесѧ, концина, вдовича, отроца**;

в) аканне: **арамаѳы, араматы, праказа, нꙑнѧ**;

г) зацвярдзенне *р*: **оумроша** (замест **оумрѣша** — АЕ),





тръхъ, горко — што пацвярджаецца варыянтнасцю напісання займенніка ѥтери, ѥтеръı, ѥтеръ, лицемѣръ; гіпермяккасць названай фанемы таксама характэрная для полацка-смаленскіх гаворак: ѿ трапезъı;

д) пераход *о* > *и*: въ оутроубоу, въ соубоутоу; (рыса ўсходніх беларускіх гаворак, 1, к. № 35);

е) пераход ѣ > *і*; гэтая з’ява прысутнічае ў ПЕ не-выразна, толькі ў флексіях і граматычных фармантах, што можа быць растлумачана цьмянасцю артыкуляцыі і ўзаемаўплывам розных тыпаў скланення: слоушаꙗ словеси (замест словесе), въ храми (замест въ храмѣ), а таксама гіперправільная форма створьшеи (замест сътворьшии); па аналогіі з гэтым пераходам адзначаны выпадкі пераходу *е* ў *і*: лжисвѣдетель;

ж) як і ў шмат якіх помніках старабеларуска-га пісьменства, у ПЕ назіраецца змяшэнне губных па цвёрдасці — мяккасці, гэтую з’яву даследчыкі звязваюць з балцкім уплывам: моуромь (параўн. мюро).

Лексічныўзровеньукананічныхпомнікахпісьменства варта аналізаваць з выкарыстаннем тэксталагічнай методыкі з мэтай вызначэння лексічных варыянтаў у помніках рознага паходжання. Так, у ПЕ ў параўнанні з АЕ адзначана наступная варыятыўнасць (першай падаецца лексама з ПЕ):

а) сярод займеннікаў: скъıꙗ — етеръı, етери — едини, нѣции — ѥтери, никоторъıи — ини;

б) сярод назоўнікаў: книгъı — писаниꙗ, жидове — иоудеи, тръжникъı — пѣнѧжьникъı, въ жизнь — въ животъ, по объıчаю — по очищению, стареишинѣ — архитриклинови, словесемъ — глаголомъ, година — часъ, чюдо — знамениѥ, праздъникъ… коущнаго потъчениꙗ — праздьникъ… скинопигиа;

в) сярод дзеясловаў: ходꙗща — идѫща, оуслъıшаста — слъıшаста, рече — гл҃а, въродитисѧ (въ оутроубоу) — вълѣсти (въ ѫтробѫ), грѧдеть — идеть, испровьрже — опровьрже, (знамениѥ)





твориши — (знамениѥ) ꙗвлꙗеши, низитисѧ — мьнитисѧ, съвыше приходѧи — грѧдыи съвыше, не ставъшю виноу — не доставъшоу винꙋ, не оуже приде — неоуприде, азъ послоушьствоую о немъ — азъ съвѣдѣтельствоуѭ о нѥмь, въслѣпающа — истѣкаѭщѧ, пригласи — призови, глаголемыи — нарицаѥмыи, пригласи жениха — възгласи жениха, възиде — вънide;

г) сярод прыметнікаў: моутьна (срдцьмъ) — мьдьльна (сьрдьцьмъ), жидовьска — июдеиска;

д) сярод прыназоўнікаў: страха дѣлѧ — страха ради.

*Аршанскае Евангелле XIII ст*. (АрЕ) — рукапіс быў выкінуты салдатамі Напалеона з Аршанскай царквы (адсюль і назва). Зберaглося 142 аркушы без пачатку і канца, аднак храналогія і парадак чытанняў дазваляе тыпалагізаваць рукапіс як поўны апракас. У АрЕ змешчаныя дзве мініяцюры з выявамі евангелістаў Лукі і Мацвея, дзве застаўкі і 310 ініцыялаў пераважна тэраталагічнага, зрэдку антрапалагічнага характару. Даследчыкі адзначаюць набліжанасць характару мініяцюр да размалёвак Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку. У літаратуры дыскутуецца пытанне аб лакалізацыі помніка: украінскія навукоўцы, абапіраючыся на пэўныя лінгвістычныя асаблівасці рукапісу, адносяць яго да кіеўскай рэдакцыі. Аднак гэтымі даследчыкамі не былі ўзятыя пад увагу такія дыялектныя рысы помніка, як цоканне і аканне:

а) аканне — яканне: большасць украінскіх дыялектаў не ведае гэтай лінгвістычнай з’явы. У АрЕ сустракаецца спарадычна: съгараюць, оутапати, оутапахоу, затварѧете. Асабліва важнай для вызначэння месца напісання помніка з’яўляецца форма нынꙗ, якая двойчы зафіксавана ў рукапісе (пар. ст.-слав. нынѣ). Даследчыкі старaславянскай мовы адзначаюць пераход *е* > *‘а* ў класе назоўнікаў як з асновай на **ja*, так і з асновай на **jo* ў *Accpl* [5, 148], гэтая тэндэнцыя магла распаўсюдзіцца і на клас прыслоўяў па аналогіі, аднак больш верагодным падаецца тлумачэнне гэтай з’явы





ўплывам дыялектных форм тыпу *таперя*, якія паўсталі на тэрыторыі дысімілятыўнага акання. Гістарычна гэта рэгіён засялення крывічоў, які ў дачыненні да колішніх беларускіх земляў абмяжоўваецца Полацка-Смаленскай тэрыторыяй. У якасці з’явы дысімілятыўнага акання можна разглядаць напісанне **смъıковница** (калі націск падаў на трэці склад);

б) цоканне: **ѿсеци ю, цвѣтца (польскаго), оцѣщающе.** Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, што цоканне адлюстроўваецца выключна ў помніках пісьменства наўгародскага паходжання [3, 148], старабеларускія тэксты таксама адлюстроўваюць гэту фанетычную рысу, хаця і не ў такім маштабе: **на гочкъмь березе** (Дагаварная грамата смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г.), **мець въıзета ли силою, забъıлъ... своего крстнаго целованиѧ, есть миръ доконцанъ** (Грамата рыжан да віцебскага князя Міхаіла Канстанцінавіча каля 1300 г.), **оу полочкоу** (Дагавор Полацка з Рыгай 1407 г.). Цоканне, дысімілятыўнае аканне — рэлевантныя прыметы крывіцкага дыялекту, які мае вельмі шырокую геаграфію распаўсюджання, і Наўгародскі рэгіён — гэта перыферыя цокаючых гаворак, а па меркаванні арэальных лінгвістаў, моўная з’ява хутчэй размываецца ў цэнтры, а даўжэй захоўваецца на перыферыі. Цоканне і сёння спарадычна сустракаецца на паўночным усходзе Беларусі;

в) зацвярдзенне шыпячых і *ц*. У АрЕ побач з традыцыйным абазначэннем мяккасці шыпячых і *ц* (**тишина, вълѣзъшю, въмещюща, ни жьзла, моужю**) назіраецца адлюстраванне зацвярдзення шыпячых (пераважна перад галоснымі непярэдняй зоны ўтварэння): **до коньца, на жатвоу, (въ) притчахъ** (але ў *Accsg* **притчю**).

У галіне марфалогіі звяртаюць на сябе ўвагу наступныя рысы:

а) паслядоўна перадаецца канчатак *-ть* у формах дзеясловаў цяперашняга і будучага простага часу *3sg* і





*pl*: **станеть, послоушаеть, да боудеть, изобилоуеть, поиметь, погъıбнеть,** што з'яўляецца яскравай прыметай усходнеславянскай рэдакцыі рукапісу;

б) у галіне змяшэння тыпаў скланення асноўнае месца належыць канчатку *-ови* назоўнікаў м.р. скланення на **o/*jo*: **олтареви, иосифови, бв҃и,** (**противоoу**) **іс҃ви, иродови, симонови,** а таксама скланення на зычны: **петрови,** але ў складзе Давальнага самастойнага назіраецца традыцыйная форма: **пришьдъшю іс҃оу.**

*Друцкае Евангелле* (ДЕ). Рукапіс (1-я пал. XIV в.) быў падараваны князем В.М. Друцкім і яго жонкай Васілісай у царкву Святой Багародзіцы ў Друцку, а ў 1441 г. перадараваны віленскім грамадзянінам Конанам у царкву Уваскрэсення Хрыстова ў Вільні. Па кампазіцыі поўны апракас, захаваўся нядрэнна, аднак у сярэдзіне рукапісу адсутнічае шосты сшытак. У лінгвістычных адносінах спалучае рысы паўднёва-заходняга рэгіёну (пераход яць у [и], а таксама ўжо згаданыя аканне і цоканне).

*Фанетычны ўзровень.* У ДЕ адзначаюцца наступныя асаблівасці на гэтым моўным узроўні:

- непаслядоўна, але ў значнай ступені адлюстравана зацвярдзенне шыпячых: **чадомъ, разоумеша, жатва, чада, ища, обидоша, наша, възваша, досадиша;**

- рэфлекс **dj* выглядае як *ж*: **дажь, вжажетьсıа, вжадатиса, чюжахуса, преже, вижь, вижю, роженое, прихожахоу, хужѣе, осужень, межи собою, соужю, в жаже** (у АЕ **въ жажде**);

- якасць ероў. У ДЕ шырока адлюстравана падзенне рэдукаваных і пераход іх у моцнай пазіцыі ў паўнавартасную фанему: **возва, возмѣте, возмуть, во имıа его, во истиноу, во тъ днь, во тмѣ, ко ісви, во истиноу, во въскршные, во и / въ нь** (у АЕ **въ него**), **во нъ** (у АЕ **въ нъ**), **но** (у АЕ **нъ**), **со мною, соборъ, ложь, ѿ вервии, шелъ, ѿверзоста, зерно, весь, сперва, вергуть, почерпѣти** (у АЕ **почръпѣте**), **торжьникомъ, коназь** (у АЕ **кънязь**), **сонмища;** рэдукаваны ў слабой пазіцыі можа таксама апускацца: **в**




**миръ, створивъ**, па аналогіі назіраецца і страта рэдукаваных у моцнай пазіцыі: **соудъ всь**;

- непаслядоўнасць у перадачы мяккасці — цвёрдасці губных: **вамь — вамъ, тѣмь — тѣмъ, нѣсмь — нѣсмъ**;

адсутнасць збегу галосных: **въспригахомъ, иѥрдана, июдѣѥмъ, аврамъ**;

сцяжэнне галосных: **приде** (у АЕ **прииде**), **имате** (у АЕ **имаате**), **пославшаго** (у АЕ **посълавъшааго**), **оучаше** (у АЕ **оучааше**);

- пераход **ѣ** ў *і*. Першае месца сярод рэлевантных прымет займае адлюстраванне на пісьме пераходу **ѣ** ў [и]: **видети — вѣдети**, а таксама паслядоўнае ўжыванне словаўтваральнай пары **свѣдительство / свѣдительствовати, свѣдѣтельство / свѣдѣтельствовати.** Названы пераход **ѣ** ў [и] завочна адлюстраваны і ў выпадку **видѣте** (параўн. **видите** ў АЕ), перапісчык не зусім упэўнена адчуваў сябе пры напісанні фанем на месцы гістарычнага **ѣ.** Некаторыя даследчыкі схільныя бачыць у выпадку **видѣти — вѣдѣти** асацыятыўна-семантычнае змяшэнне, калі дзеяслоў **вѣдати,** у семантычнае поле якога ўваходзіць значэнне ‘ўспрымаць розумам, уяўляць’, аманімізуецца з дзеясловам **видити** са значэннем ‘успрымаць зрокава, зрокава адчуваць’. Аднак *фанетычная* версія прадстаўляецца нам больш удалай, паколькі пацвярджаецца як матэрыяламі з іншых помнікаў беларускага пісьменства, так і фактамі з паўднёва-заходніх беларускіх гаворак; гэтая ж самая фанетычная з’ява назіраецца і ў флексіях і граматычных фармантах: **исправитї** (у АЕ **исправите**), **въ оутри** (у АЕ **въ оутрѣ**), **изъ цркви** (у АЕ **изѕ цркве**), **нози** (у АЕ **нозѣ**), **съ нбси** (у АЕ **съ нбсе**), **с небеси** (у АЕ **с небесе**), **о добродѣтели** (у АЕ **о добродѣтѣлѣ**), зрэдку гэтая з’ява назіраецца ў прэфіксах і суфіксах дзеясловаў: **прибываеть** (у АЕ **прѣбываеть**), **прибудеть** (у АЕ **прѣбждеть**), **архиерѣи**;

- паслядоўная замена **ѣ** на *е* ідзе поруч з паслядоўным адлюстраваннем цокання, што з’яўляецца (як адзначана





вышэй) яскравай прыметай паўночна-ўсходняга дыялекту: сн҃ъ чл҃вць, газъщникъ, соуцечь, соучечь, наричаемого, оц҃е, овча. Некаторыя даследчыкі з'яву цокання схільныя лакалізаваць толькі Наўгародчынай, зрэдку Пскоўшчынай. А.А. Шахматаў таксама не абмяжоўваў арэал распаўсюджання гэтай фанетычнай з'явы толькі паўночнарускімі гаворкамі: «Так находим в Смоленской области смешение ч и ц в памятниках XIII в… Полоцкие памятники также знают смешение ч и ц… Мена ч и ц не чужда и совр. белорусским говорам, пограничным с северновеликорусскими» [6, 326]. Паўночнае паходжанне пратографа пацвярджае і наяўнасць лексемы дожгъ, якую І.І. Сразнеўскі супастаўляе з літ. *duzgeti* 'шумець' [4, I, 140]. У ДЕ адзначаны таксама выпадкі мены ѣ і *е*: врема, пребъıваѭ, оумретъ, препловление (у АЕ прѣполовление). У ДЕ адзначана таксама мена ѣ на *е*: мѣнѣ, рѣхъ;

- ускосным сведчаннем пераходу *о (ъ) > у* з'яўляецца напісанне тыпу мъıдръıмъ (сб. 17-ы тыдзень па Тройцы);

- прамых выпадкаў зацвярдзення *р* у помніку не адзначана, адсутнасць пасля адпаведнага зычнага рэдукаванага пярэднай зоны ўтварэння можа сведчыць аб агульным працэсе іх знікнення: опроверже (у АЕ опроверьже).

*Марфалагічны ўзровень:*

а) флексія *-ови/еви* ў назоўніках м.р. у форме *Datsg* скланення на **о/*jo*: ко ієви, бви;

б) флексія *-и* ў форме *Gsg* назоўнікаў скланення на **о/*jo*: суда (суду);

в) канчатак *-ть* у дзеясловаў *3sg* і *pl*: показаеть, чтить, просвѣщаеть, крещаеть, стоить, приемлеть, градуть, вѣрують, возмуть, подобаеть, свѣдѣтельствоують, хранить, послушаеть, прибудеть, обличить;

г) звяртае на сябе ўвагу і спецыфіка дзеяслоўнага кіравання: *Acc* часта замяняецца на *Gen*: вѣръı не имете (у АЕ вѣрꙋ не имете), на него уповаете (у АЕ на нь оуповаете), обличить миръ (у АЕ обличить мира);





д) зваротны займеннік *себе* ў формах *Dat-Abl* у ДЕ шырока прадстаўлены ў інавацыйнай форме, уласцівай шмат якім помнікам усходнеславянскай рэдакцыі стараславянскай мовы: к собѣ, о собѣ, по собѣ, въ собе, тобѣ; аналагічна і заменнік тобѣ;

е) флексія *-ого* ў прыметнікаў і займеннікаў ад'ектыўнага тыпу скланення м.р. у форме *Gensg*: всꙗкого (у АЕ всꙗкаго);

ж) флексія інфінітыва *-ть*: не можеть въсхытить (у АЕ не можеть въсхытити).

*Лексічны ўзровень.* Лексічныя варыянты ў ДЕ прасочваюцца ў параўнанні з АЕ: искони — в началѣ, тъ — сеі, ѥдиночадаго — едінороднаго, июдѣи — жидове, июдѣескъ — жидовскъ, нарицаѥтьсꙗ — глетсꙗ, ѿ вифсаидьска града — ѿ виѳсаидъı, оучтлю — равви, съзидаеши — въздвигнеши, година — часъ, гребахоу — идахꙋ, вѣтроу великоу — вѣтрꙋ велїю, встагаше — въздвизашесꙗ, приведеть его — привлечет ѥго, рѣша — гл҃аахѫ, книгъı — писаниѥ, видѣти — знати, градахꙋ — идаѣхѫ, грꙗдеть — идеть, оучт҃лю — равви, (аще мꙗ бъıсте) видѣли — (аще мꙗ бъıсте) знали, пѣнꙗзь — сърєбрьникъ, жидове — сѣмꙗ авраамлѥ, право — аминь, кладꙗзь — стѫденьць, жидовинъ — иоудеи, але ёсць і июдѣи, вниде — възиде, цѣла — здрава, хранити — чтити, досадити — оукорити, призва — възгласишꙗ, въпросиша — възгласишꙗ, печаль — скърбь, оутѣшитель — параклитъ, ови — дроузии, ѿ племени — отъ сѣмене, подобенъ — достоинъ, ѿмѣритсꙗ — възмѣритьсꙗ, ръıбарь — ловецъ, готовꙗща — завꙗзаѭща, съградить — създа, (ѿ гробъ) излазꙗща — (отъ гробъ) исходꙗща, миноути — мимо ити, (преже) года — (преже) врѣмене, влѣзоша (въ стадо свїноѣ) — идошꙗ (въ свиниѩ), оутопоша (въ водахъ) — оумрѣша (въ водахъ), пребъıлъ — прѣшолъ.

У ДЕ часта лексема ч҃лкъ выступае ў сваім расшыфраваным варыянце: человѣкъ.





*Сінтаксічны ўзровень.* У параўнанні з АЕ назіраюцца наступныя змены ў сінтаксічнай і тэксталагічнай структуры тэксту ДЕ: **дажь ми воды пити (даждь ми пити), гл҃а с тобою (глаголіаи ти), гл҃а ѥмоу (гл҃а къ нѥмоу), гл҃а с тобою (гл҃а ти), призови мужа твоѥго (призови мѫжъ твои), что ищеши (чесо ищеши), право судите — правьдьнꙑи сѫдъ сѫдите, оц҃а имъ гл҃ше ба҃ — о отьци имъ глааше, оуже много гл҃ю вамъ — оуже не мъного гл҃ѭ съ вами.**

Здзіўляе даследчыка наяўнасць у ДЕ лагічных памылак у тэксце, што сведчыць аб недасканаласці адукацыі пісьма або аб рэгіянальным, перыферыйным характары школы перапісчыкаў: **егда въ всемь мирѣ ѥсть свѣтъ** (у АЕ **ѥгда же въ мирѣ есмъ свѣтъ**).

*Лакальныя рысы.*

а) *ие(а) >je(a)*: **виденьꙗ, знаменьꙗ, абье, тиверьꙗда, пьꙗи, с радостью, дьꙗвола, пьꙗ, оубьеть,**

б) аканне ў ДЕ адзначана толькі ўскосна, у гіперправільнай форме **сгораеть** (у АЕ **сгараеть**), а таксама ў формах **зана** і **нына**, апошняя адзначана таксама ў АрЕ і ПЕ.

*Другое Полацкае Евангелле* (ДПЕ) (РНБ, QnI2) напісана паўуставам, спіс XIV ст. з сярэднебалгарскага арыгінала. Па моўных асаблівасцях таксама лакалізуецца паўночна-ўсходнімі беларускімі землямі, але ў тэксце назіраюцца рысы цэнтральных і нават заходніх беларускіх гаворак.

З графіка-арфаграфічных асаблівасцей звяртаюць на сябе ўвагу наступныя:

- **ѫ** замяняюцца на *у* (**имуть, суботу**), у пазіцыі пасля мяккіх зычных і *j* — на ю (**сущю, послю**);

- у слабай пазіцыі рэдукаваныя часцей за ўсё апускаюцца (**с нимѣ, близнець, жатва, петрови, цѣм же**), у моцнай — вакалізуюцца, асабліва паслядоўнасцю вылучаюцца пазіцыі ў складзе прыназоўнікаў і дзеяслоўных прэфіксаў (**во что, совопрошение, по собѣ, во тъ дньь, во имѧ свое, во тмѣ**);

- у спалучэнні з плаўнымі ъ, ь вядуць сябе па-рознаму (параўн. **прьста / перьстъ**); у моцнай ступені адлюстравана змяшэнне **є/ѣ**, прычым двухбаковага кірунку (**придета, видета, примете; с нимѣ, дѣꙗвола, двѣрми, двѣрь**); рэфлекс *dj паслядоўна адлюстраваны як *ж* (**преже, вижь, роженое, осоуженъ, въ одежи, роженоу**).

З лакальных фанетычных уплываў можна адзначыць наступныя:

- аканне (**разараше, араматы**);

- адлюстраванне зацвярдзення шыпячых і *ц* мае традыцыйны для ўсходнеславянскай рэдакцыі выгляд (**чаты, єдиночадыи, жатва / жатвѣ**), але сустракаюцца і гіперправільныя формы тыпу **близнець, корабла** (але ёсць і **корабль**);

- цоканне (**нарѣчаєтса, чявц҃кыи, биць, чаты, очь, оч҃а** замест **оцъ, оц҃а, срачичю**); а таксама пераход *о > у* (**сусѣди**); пераход **ѣ** > *і* (ужо згаданая форма **свѣдительствуеть**) і адваротна, што даволі рэдка сустракаецца ў помніках (**нарѣчаєтса**).

З марфалагічных асаблівасцей адзначаны наступныя: канчатак *-ови/еви* для субстантываў (выключна для адушаўлёных) скланення на **о/*jo* ў форме *Datsg* (**б҃ви, иосифови, моисѣеви**); фіналь *-ть* для дзеясловаў цяперашняга часу *3sg* і *pl* (**свѣдительствуеть, имуть, въпросать**); займеннікавыя формы **тобѣ, собѣ** ў *Dat* і *Loc* (**о собѣ, г҃лю тобѣ**). Асаблівую цікавасць выклікала форма **оученикѣ**. У сінхраніі аналагічная з'ява — адна з рэлевантных прымет гродзенска-баранавіцкіх гаворак [1, к. № 95; прыклады тыпу *стал'э, дуб'э, луг'е, бак'е*], якія тэрытарыяльна належаць да паўднёва-заходняй беларускай дыялектнай зоны (тэрыторыя, якая сфарміравалася на аснове дрыгавіцкага этнічнага субстрату), аналагічна пацвярджае гэта і пераход **ѣ** > *і* (у гродзенска-баранавіцкіх гаворках прысутнічае ў данай пазіцыі *е* — 1, к. № 35, якія ў пісьмовай традыцыі мог перадавацца і праз *и*).

Тлумачэнняў спалучэння ў ДПЕ лакальных дыялектных з'яў рознага паходжання некалькі. М. Ермаловіч адзначае: «Як паказвае археалогія, асабліва інтэнсіўны быў рух крывічоў на поўдзень ва ульска-ўшацкім міжрэччы, а таксама па Бярэзіне. А гэта мела сваім вынікам тое, што крывічы пачалі мяшацца з прыдзвінскімі дрыгавічамі, якія… сталі прымыкаць да Полацка» [2, 47]. Другім тлумачэннем можа быць тое, што пратограф тэксту ДПЕ быў створаны на гістарычна крывіцкім моўным арэале (куды, дарэчы, уваходзіў і сам Полацк), а перапісчык мог быць родам з цэнтральнай або заходняй Беларусі.

Такім чынам, па тыпалогіі апракасаў усе адзначаныя тэксты належаць да поўных, па лінгвістычных асаблівасцях рэгіён іх узнікнення лакалізуецца паўночна-ўсходнімі беларускімі землямі.

**Спіс літаратуры і крыніц**

**1**. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Пад рэд. Р. І. Аванесава. Ю.Ф. Мацкевіч. — Мінск, 1963.

**2**. *Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1990. — 366 с.

**3**. *Соболевский А.И.* Особенности русских переводов домонгольского периода // Труды девятого археологического съезда в Вильне. 1893. Т. II. — М., 1897. — с. 158–194.

**4**. *Срезневский И.И.* Материалы для словаря древнерусскаго языка. — Т. I–III — СПБ., 1893–1903–1903.

**5**. *Хабургаев Г.А.* Старославянский язык. — М.: Просвещение, 1974. — 432 с.

**6**. *Шахматов А.А.* Очерк древнейшего периода истории русского языка. — М.: Индрик, 2002. — 424 с. (Памятники древней письменности. Исследования. Тексты).



# ТОПОС МИР В «ВЕРТОГРАДЕ МНОГОЦВЕТНОМ» СИМЕОНА ПОЛОЦКОГО: МЕХАНИЗМЫ ВЕРБАЛИЗАЦИИ

*Булгакова А.А.*

Исследование топики в её теоретической определённости и историческом развитии относится к числу наиболее актуальных направлений современного литературоведения (теоретической и исторической поэтики), шире — филологии, которая в последнее время всё активнее обращается к изучению «резонантного пространства» (В.Н. Топоров) культуры и литературы, то есть клише, стереотипов, универсалий, констант, «общих мест» и т.п., и через них — к выявлению механизмов эволюции культуры и сохранения её «генетического кода» через процессы преемственности. Под топосом мы понимаем значимую семиотическую, культурно-типологическую единицу, которая предстаёт в тексте в виде художественного образа с пространственными характеристиками, несущего устойчивые смысловые значения. Его особенностью является то, что он относится одновременно к ментальной (топос как мыслительная схема), семиотической (топос в пространстве культуры) и языковой (вербализация топоса в тексте) сферам. Рассмотрим механизмы вербализации топоса Мир, одного из важнейших топосов в мировой литературе, в стихотворной книге «Вертоград многоцветный» (далее — «ВМ») Симеона Полоцкого и определим соотношение конкретного / абстрактного планов топоса.

«ВМ» — книга, написанная поэтом в «московский» период его творчества и являющаяся образцом русского





барокко. Несмотря на то, что исследователи изначально видели в ней «поэтическую россыпь», произведение типа антологии, энциклопедического сборника (Л.Н. Майков), «стихотворного музея» (И.П. Ерёмин), где значение отдельного стихотворения выше, чем книги в целом, впоследствии Л.И. Сазонова определила «ВМ» как «христианско-дидактическую систему» [1, с. 605], единство и целостность которой обусловлены «цельностью авторского замысла» и «единством нравственно-философской концепции» [1, с. 556] произведения, отражённой в мотиве сада. Такое стремление поэта к универсальному охвату всего мирового пространства (материального и духовного), по мнению учёных, объясняется характерным для эпохи барокко «мировоззренческим сближением художественного и «божественного» творчества» [2, с. 324, стб. 1], что в свою очередь продиктовано представлением о тождестве «Слова Божия и Слова как первоэлемента знания» [3, с. 238–239]. Немаловажная роль в создании единства книги принадлежит топосу Мир.

«ВМ» создаётся в переходный период русской истории и культуры (от Средневековья к Новому времени, от закрытого типа культуры к открытому). Иными словами, в период максимально неустойчивый, хаотичный, когда происходит ломка старого мировоззрения, средневековых форм мышления и видения мира, когда при несформированности в культурном сознании новых ценностей возникает аксиологический и гносеологический вакуум. Отсутствие чёткой мировоззренческой системы и, соответственно, картины мира приводит к обращению Симеона Полоцкого к парадигме устойчивых значений топоса Мир, которые воспринимаются (уже на бессознательном уровне) как образы-метафоры, воплощающие архетипическую идею гармонизации мира, обеспечения его целостности.

В «ВМ» парадигма топоса Мир представлена архетипическими субтопосами «мир — море», «мир — сад»,





«мир — человек», «мир — книга» и «мир — храм», актуализирующими исконное значение (представление мира в его целостности) и выражающимися с различной степенью интенсивности. Семантика данных субтопосов обусловлена религиозной мировоззренческой доминантой. В «ВМ» мир предстаёт как совокупность макрокосма (мироздания, природы) и микрокосма (человека), соединение которых возможно благодаря смысловой оси «Бог — мир — человек», носящей характер постоянной коммуникативной связи: мир есть текст, предназначенный для толкования (дешифровки) и познания его человеком. Соответственно, мир, представленный в «ВМ» — это мир барокко.

Философские основания барокко определяют *конфигурацию субтопосов,* которая указывает на способ познания мира поэтом, а также демонстрирует угол зрения, под которым это познание происходило. В «ВМ» доминирующее место отводится субтопосам «мир — книга», «мир — море» и «мир — храм», которые отсылают к глубинным православным представлениям о мире, его целостности и единстве. Пространство, не имеющее направления, выраженное формулой «мир как хаос», характерной для раннего творчества поэта, заменяется пространством Храма (идеальным пространством православных ценностей), направленным вверх, к абсолюту. В то же время субтопос «мир — человек» представлен пунктирно. Человек, согласно мировосприятию русского высокого барокко, интересует поэта лишь как объект познания (в процессе познания мира Симеон Полоцкий не может обойти человека, так как без него разрушится вертикаль «Бог — мир — человек»). Целостная картина мира, сложившаяся в «ВМ», проецируется на сам текст и выражается в тесном взаимодействии в тексте всех субтопосов.

Ключевая для барокко идея дезинтегрированности слова и вещи, знака и значения, а также приоритет Слова




обусловливает доминирование *абстрактного* плана топоса над его *предметной, конкретной* составляющей, что определяет вербализацию топоса Мир с помощью приёмов когнитивного и словесного остроумия*, метафорического и эмблематического языка*. Для воплощения топоса Мир Симеон Полоцкий использует риторические приёмы и фигуры, характерные для искусства европейского и русского барокко (антитезу, хиазм, оксюморон, парадокс, различные виды повторов, асиндетон, гиперболу, словесную игру, особый тип сравнения и метафоры).

И.П. Ерёмин, говоря о «ВМ» Симеона Полоцкого, называл его «своеобразным музеем, на витринах которого расставлены в определённом порядке («художественне и по благочинию») самые разнообразные вещи, часто редкие и очень древние», а самого поэта — «библиофилом, начётчиком, любителем разных «раритетов» и «курьёзов»» [4, с. 125]. В то же время А.М. Панченко главным пунктом эстетической программы русских поэтов конца XVII в. назвал апофеоз Слова [5, с. 226], а «ВМ» — «словесной процессией», «парадом слов» [5, с. 226]. Все риторические приёмы и фигуры, используемые поэтом (причудливые сравнения, оксюморон, антитеза, утончённый метафоризм, эмблематика и т.п.), говорят о мнимой «вещности» поэзии Симеона, о том, что его «вещь» заменяет собой нечто более значительное, являясь при этом его частью, и о том, что для самого поэта «вещь сама по себе — ничто. Вещь — только форма, в которой человек созерцает истину, только «знак», «гиероглифик» истины» [4, с. 130]. Поэтому формулой интерпретации образов «ВМ» и топоса Мир в частности может быть формула «х есть знак у».

Симеон Полоцкий, переводивший описываемые вещи и явления из реального плана в понятийный, представлял образы, составляющие парадигму топоса Мир, не в прямом их значении, а в *метафорическом.* В результате мир в «ВМ»




представал не в виде предметной реальности, а в виде логической абстракции, и потому получал возможность широкого метафорического переосмысления: например, если между словами «сад» и «Дева Мария», «Христос» поэтом устанавливались отношения тождества, то и субтопос «мир — сад» расширялся и преобразовывался в «мир — Богородица», «мир — Иисус Христос» и т.п. Вследствие бесконечного переосмысления и развития семантического поля образов, составляющих парадигму субтопосов, в книге отсутствует точное значение слова «мир». Это свидетельствует о том, что поэзия «ВМ» — это процесс познания поэтом мира и поиска ответов на вопросы о мире и человеке в нём.

Актуализировав абстрактный план топоса, Симеон переходил к его логической интерпретации: к примеру, поэт не просто представлял мир как книгу, но логически дробил данный субтопос на части и расшифровывал каждую: «Различни книги нам суть предложены, / да благонравно жити будем наученны. / Первая книга — мир сей, в ней же написася, / что-либо от всемогущи Господа создася <…> Вторая книга перстом Божим начертася, егда писанный закон Моисеем предася <…> Третья всеизрядна всем книга всем дадеся, / Живая, всекрасная с небес принесеся <…> Четвертая есть книга Девица Мария, / ней же добродетели писаны всякия <…> Пятая книга — совесть, комуждо свойственна, яже ныне пред людми лежит заключенна <…> Шестая книга — тайна, Сам ту Бог читает, / Церковь книгу живота ону нарицает» [6, с. 199–201]. Нередко качества и свойства описываемого Симеоном Полоцким объекта также получали аллегорический смысл: текучесть моря приводила к мысли о непостоянстве мира, огороженность и возделываемость сада — к отождествлению сада с пространством культуры и т.п.

Культура русского барокко, тесно связанная со средневековым искусством, культивировала панзнаковый под-





ход к реальности, при котором весь универсум воспринимался не как предметный, а как знаковый мир, в котором всё имеет означаемое и означающее и все знаки связаны друг с другом. По словам А. Хипписли, Симеон «редко позволял слову сохранять своё буквальное значение, а обычно прибегал к выражению глубокого морального или духовного смысла» [7, с. 39]. Так, видимый мир (реальный универсум) для Симеона Полоцкого как представителя барокко представал лишь оболочкой, за которой скрыто истинное содержание (мысленный универсум), требующее проникновения вглубь значения слова (что свидетельствует и о том, что «установка на сообщение заменяется установкой на код» [8, с. 119]) и обнаружения символических связей между различными словами (вопрос, который неоднократно ставил Симеон в виршах: «Что же духовне могут [вещи] нам знаменовати?» [9, с. 45]).

Пространство пансемиотизма, которое представляет собой «ВМ», соотносится с различными уровнями культурного универсума и толкуется с помощью византийской экзегетики, на что указывает сам поэт в вирше «Писание». Поэт описывает экзегезу как своеобразный метаязык, способствующий пониманию его поэзии, а Священное Писание — как ключ к расшифровке мира (осмысление Священного Писания осуществляется, по словам Л.В. Левшун, методом «типологической экзегезы», то есть объяснения, и «аллегорической амплификации», или наделения текста аллегорическими значениями [10, с. 80–83]): «Первый разум — писменный, иже деяния / Исторически миру дают Писания. / Вторый — аллегоричный, иже под покровом / Иноглаголания даст дела словом. / Третий — нравом учащий <…> Есть анагогический в четвертом лежащий» [11, с. 492]. «Исторический разум» предполагает толкование слова с позиций поэтов-энциклопедистов, обладающих знаниями из различных сфер жизни, аллегорический — иносказательное





толкование с позиций Священного Писания, соотносимое с универсумом культуры, нравоучительный смысл — интерпретацию с проповеднических позиций, основанную на библейских заповедях, сокровенно-анагогический разум соотносит написанное с миром Божественного Слова.

Сообразно данному герменевтическому методу, поэт в одном из виршей создаёт парадигматическую структуру значения понятия «мир», которое несёт исторический, культурный и религиозный смыслы: «Первый есть с Богом и с нами, / Христом устроен, яко отцу со сынами <…> Вторый мир между людми учаше хранити, / Еже бы во единстве веры, любве жити <…> Третий мир есть с совестию, комуждо своею / Нужден есть христианом <…> Того ради Он Церковь везде расширил есть, / Вся роды во единство свести возлюбил есть» [6, с. 318 — 319].

Однако толкование слова в «ВМ» происходит не только парадигматически (то есть осуществляется за счёт проникновения в глубь смысла слова и выявления различных уровней его значения, что характеризует мышление Симеона как мышление, ориентированное на византийскую традицию), но и синтагматически (по связи одних слов-знаков с другими словами-знаками, отчего первые приобретают тот или иной смысл), что выявляет уже утончённый интеллектуализм поэта. Возможность многократного варьирования в тексте одной и той же темы и способность слова выступать в различных значениях говорит о ненасыщенном, размытом характере культурного знака в эпоху барокко [8, с. 137]. У Симеона Полоцкого значение слова также зависит от проявляемых им свойств и от контекста, в котором оно находится.

Несовпадение между означаемым и означающим, обычное для несовершенного человеческого языка (в противовес языку божественному, символическому), Симеон выражает с помощью риторических фигур *различе-*





*ния* («Благо есть в мире, еже мир хранити / с Богом, ближними, с совестью житии, / Но с миром самем не мир есть блаженный, / ибо той во зле тлеет положенный» [6, 320]), *замещения* («Сребролюбие — промысл нарицати, / прелюбодейство — любовь именует, / ярость велию ревность повествует, / правды именем зовет отмщение…» [6, с. 335]), а также создания *метафор и словесных эмблем.*

*Метафоризм* Симеона Полоцкого характеризуется интеллектуализмом, логичностью и в то же время причудливостью, свойственной барочной поэтике. Основу субтопосов в «ВМ» составляют метафоры (мир — книга, мир — сад, мир — море и др.), в которых ярко выражено и непосредственно дано к*онкретно-чувственное* начало, а понятийная составляющая, на основе которой осуществляется сравнение, скрыта в подтексте. Однако важным для поэта в метафоре является именно то, что не выражено явно (для поэтики барокко в целом характерно то, что «метафора взвинчивается до высшего предела <…> возводится в абстракцию, отрывается от предмета образности в сложном сплетении побочных и переносных значений, получающих интенсивное развитие» [12, с. 116]).

Метафоризация у Симеона исходила не из одного, но из нескольких свойств объекта, в результате чего образовывался семантический пучок. Так поэт поступал и с готовыми метафорами (топосами) — проявлениями культурной памяти. Он развивал, модифицировал их значения и связывал один топос с другим по ассоциации и на основе их общих свойств. К примеру, в топосе «мир — море» поэт актуализировал такие свойства моря, как его бескрайность, текучесть, полнота жизни, способность воплотить в себе одновременно бытие и небытие, жизнь и смерть. Это в свою очередь обусловило возникновение в «ВМ» других метафор, связанных с данным субтопосом (жизнь — море, Бог — океан, душа — ковчег, Иисус Христос — кормчий, мир земной




— сети и др.).

Метафорический тип мышления Симеона выражался в двух типах «остроумия»: когнитивном (мысленном) и словесном (по М. Сарбевскому).

Когнитивное остроумие, доминирующее у Симеона, предполагает оперирование различными фигурами мысли, аллегориями, символами, необычными сравнениями, парадоксами. Пример поэтического образа, основанного на принципах мысленного остроумия («фигурах мысли»), — книга: это и «мир сей», и «божественная тайна», и «Христос», и «Дева Мария», и «преширокий аер» и т. п. Можно сказать, что расширение семантики топоса Мир в целом также подчинено данному принципу, позволяющему сочетать несочетаемое и создавать причудливую образность на основе мысленного сближения слов и вещей и логической интерпретации поэтом данных «концептов».

Исследователи (А. Хипписли, Л.У. Звонарёва, Л.И. Сазонова и др.) отмечают и близость метафоры Симеона Полоцкого эмблеме, «фигуре мысли», в которой также присутствует конкретный, предметный план, но понятийность доведена до предела. Эмблема в искусстве барокко демонстрирует «сращённость образно-понятийных начал» [13, с. 121], и это подтверждает тот факт, что в литературе эпохи «готового слова» (термин А.В. Михайлова), а соответственно и в поэзии Симеона Полоцкого, не может быть ни чистого образа, ни чистого понятия (без конкретно-предметного начала). Эмблемы в «ВМ» представляют собой вид так называемых «воображаемых» (А.А. Морозов) эмблем (или, как их назвал А. Хипписли, «литературных аналогов эмблем» [7, с. 41]), в которых изображение даётся вербально, а надпись и подпись сведены воедино (например, стихотворения «Книга», «Мариа» и др.). Такая эмблема направлена на раскрытие сакрального или нравоучительного смысла понятия или вещи, описываемой в стихотворении, что и было зада-





чей Симеона Полоцкого. Многие вирши, в которых раскрывается смысл субтопосов, составляющих топос Мир, также эмблематичны («Книга», «Море», «Мысль», «Мир» и др.), например: «Пресвятая Мариа корабль есть мысленный, / им же гладну миру хлеб внесеся спасенный. / В день зачатия корабль сей сооружися, / на море мира пущен в день, во нь же родися…» (вирш «Мариа») [6, с. 286]; «Вера с добрыми делы душу оживляет, / егда любовь правая ону украшает. / Душа, яко лампада, яко елей дела, / любы да есть, яко огнь, и будет весела / во сиянии своем…» (вирш «Любовь») [6, с. 263] и т.п.

Несмотря на превалирование образности, основанной на «фигурах мысли», словесное воплощение топоса Мир осуществляется и с помощью «фигур слова» (антитеза, контраст, хиазм, оксюморон), которые также способствуют созданию особого типа метафор.

Таким образом, в барочной поэзии, которая представлена «ВМ» Симеона Полоцкого, актуализируется *абстрактный* план топоса Мир, что обусловлено ключевой для данного типа культуры идеей дезинтегрированности слова и вещи, знака и значения, которую поэт смог преодолеть, выражая «невыразимое» метафорическим языком и эмблемой как его разновидностью.

**Список литературы и источников**

**1.** *Сазонова, Л.И.* Литературная культура России. Раннее Новое время / Л.И. Сазонова. — М.: Языки славянских культур, 2006. — 896 с. — (Studia philologica).

**2.** Художественно-эстетическая культура Древней Руси XI–XVII веков / под ред. В.В. Бычкова. — М.: Науч.-изд. центр «Ладомир», 1996. — 560 с.

**3.** *Панченко, А.М.* Слово и Знание в эстетике Симеона Полоцкого / А.М. Панченко // ТОДРЛ. — Т. XXV. — 1970. — С.




232–241.

**4.** *Ерёмин, И.П.* Поэтический стиль Симеона Полоцкого / И.П. Ерёмин // ТОДРЛ. — Т. 6. — М. — Л., 1948. — С. 125–153.

**5.** *Панченко, А.М.* Два этапа русского барокко / А.М. Панченко // Из истории русской культуры. Т. III. (XVII — начало XVIII века). — М.: Школа «Языки русской культуры», 1996. — С. 223–232.

**6.** *Simeon Polockij*. Vertograd mnogocvětnyj / Simeon Polockij. Vol. 2. «Emmanuil» — «Pocitanie»; ed. by Anthony Hippisley and Lydia I. Sazonova — Köln, Weimar, Wien: Böhlau Verlag, 1999. — 657 S.

**7.** *Hippisley, A.* The Poetical Style of Simeon Polotsky / A. Hippisley. — Birmingham, 1985. — 96 p.

**8.** *Чернов, И.А.* Из лекций по теоретическому литературоведению. Барокко. Литература. Литературоведение. — Тарту: Тартуский гос. ун-т, 1976. — 186 с.

**9.** *Simeon Polockij*. Vertograd mnogocvětnyj / Simeon Polockij; ed. by Anthony Hippisley and Lydia I. Sazonova. Foreword by Dmitrij S. Lichačev. Vol. 1. «Aaron» — «Dětem blagoslovenie» — Köln, Weimar, Wien: Böhlau Verlag, 1996. — LX + 356 S.

**10.** *Левшун, Л.В.* К вопросу о творческом методе Симеона Полоцкого: Симеон Полоцкий — проповедник / Л.В. Левшун // Симеон Полоцкий: мировоззрение, общественно-политическая и литературная деятельность. Материалы междунар. научн. конф., 11–12 ноября 1999, Полоцк. — Полоцк: 1999. — С. 79–90.

**11.** *Simeon Polockij.* Vertograd mnogocvětnyj / Simeon Polockij. Vol. 3. «Prav nikto zhe» — «Epitafion» Simeonu; ed. by Anthony Hippisley and Lydia I. Sazonova. — Köln, Weimar, Wien: Böhlau Verlag, 2000. — LIV+ 764 S.

**12.** *Морозов, А*. Проблемы европейского барокко / А. Морозов // Вопросы литературы. — 1968. — № 12. — С. 111–126.

**13.** Теория литературы: учебное пособие для студ. филол. фак. высш. уч. завед. В 2 т.; под ред. Н.Д. Тамарченко. — Т. 2.: Бройтман С.Н. Историческая поэтика. — М.: Изд. центр «Академия», 2004. — 368 с.



# РЭФАРМАЦЫЯ ЯК СПРОБА СТВАРЭННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ

*Вашчанка А.П.*

У 2003 годзе споўнілася 450 гадоў з пачатку шырокага рэфармацыйнага руху ў Беларусі. XVI стагоддзе сталася пераломным у грамадска-палітычным, сацыяльным і ідэйным жыцці народаў Еўропы. Большасць еўрапейскіх краін ад пачатку стагоддзя была ахоплена шырокім рухам, накіраваным на рэфармаванне Рыма-каталіцкай царквы. Гэты рух атрымаў назву Рэфармацыі. Іншая яго назва — пратэстантызм. Нельга не ўзгадаць яшчэ адну памятную дату: 10 ліпеня 2009 года ва ўсім свеце адзначалася 500-годдзе з дня нараджэння Жана Кальвіна, аднаго з самых выбітных хрысціянскіх багасловаў, вялікага рэфарматара царквы, які аказаў велізарны ўплыў не толькі на гісторыю хрысціянскай царквы ў Еўропе, але і ва ўсім свеце. Яго дзейнасць, слова, малітва не абмінулі і Беларусь [**3**].

Перад тым, як весці гаворку аб укладзе, які зрабіла Рэфамацыя ў гісторыю і культуру нашай краіны, трэба растлумачыць сам гэты тэрмін.

Рэфармацыя (ад лацінскага reformatio — пераўтварэнне, выпраўленне) — шырокі грамадскі і рэлігійны рух, які пачаўся з дзейнасці Яна Гуса (1371–1415) у Чэхіі і Марціна Лютэра (1483–1546) у Германіі [**13**]. Адрозненне класічных пратэстанцкіх накірункаў ад артадаксальнай царквы заключаецца ў тым, што, па-першае, рэфармацкія цэркв ажыццявілі шэраг пераўтварэнняў у форме набажэнства. Па-другое, быў зроблены крок да скарачэння царкоўнай іерархіі. Адбылася змена некаторых абрадаў, а ў большасці выпадкаў поўная адмова ад іх; дарэчы, адмовіліся ад аз-





даблення храмаў, пышнага рытуальнага адзення, званоў, свечак, перасталі пакланяцца абразам і мошчам святых, амаль усе малітвы (за выключэннем «Ойча наш») сталі непатрэбнымі, у якасці аўтарытэта абралі Біблію.

Упершыню ў Вялікім княстве Літоўскім з рэфармацыйнымі ідэямі выступіў Геранім Пражскі, паплечнік Яна Гуса. З дазволу Вітаўта Вялікага ён у 1413 годзе прамаўляў свае казанні перад месцічамі Вільні і Віцебска. Наведваў ён Беларусь, калі звяртаўся да вялікага князя Вітаўта па дапамогу супраць нямецкіх князёў, якія імкнуліся знішчыць гусіцкую «ерась». Дарэчы, быў ён і ў Полацку [14, с. 134].

Што датычыцца звестак аб заснаванні лютэранскай царквы на Беларусі, то яны адносяцца да 1535 г.: згодна з імі, князь слуцкі Юрый Алелькавіч выдзеліў надзел зямлі для пабудовы ў г. Слуцку лютэранскага храма [14 с. 134–135]. Пазней рэфармацыйнае вучэнне ахапіла шырокія грамадскія колы, на нашых землях імкліва пашыраліся амаль усе ягоныя плыні — лютэранства, кальвінізм і іншыя. У 1560-я гг. пратэстанцкія цэрквы былі ў Полацку, Віцебску, Глыбокім, Оршы, Лідзе, Смаргоні.

Першым значным прапаведнікам рэфармацыі ў ВКЛ быў, як лічыцца, Абрагам Кульва (лац. Culvensis, каля 1510–1545), вучань Філіпа Меланхтона. Атрымаўшы адукацыю ва універсітэтах Кракава, Лейпцыга і Вітэнберга і дасягнуўшы ступені доктара тэалогіі ў 1538 г., Кульва вярнуўся на радзіму і прыбыў у сталіцу ВКЛ, Вільню. Каля 1540 г. Кульва заснаваў там школу — цалкам з дазволу ўлад [10, с. 18].

Сітуацыя для распаўсюджвання пратэстанцкіх ідэй у гэты час была больш чым проста спрыяльнай. Справа ў тым, што ідэі гуманізму, якія ўсё больш распаўсюджваліся на Беларусі, з’яўляліся глебай для развіцця Рэфармацыі. Дарэчы, гэтыя ідэі падтрымлівала сама каралева Бона Сфорца — уладарка аб’яднанай дзяржавы ВКЛ і Кароны Польскай.





Была, пэўна, падстава ва уніяцкага іерарха Антонія Сялявы, аўтара палемічнай кнігі «Anteleuchus…» (Вільня, 1622) прылічыць да пратэстантаў (гусітаў) Францыска Скарыну, знакамітага гуманіста і, дарэчы, сучасніка Марціна Лютэра. Некаторыя даследчыкі выказваюць нават такую думку, што Скарына мог сустракацца з Лютэрам у нямецкім горадзе Вітэнберг [9, с. 35].

Цікавым з'яўляецца і той факт, што Скарына ўручыў у 1530 г. біскупу Сператусу, паплечніку Марціна Лютэра, асобнік «Малой падарожнай кніжыцы», магчыма, пры наведванні Кёнігсберга. Зараз гэтая кніга, якая ўтрымлівае экслібрыс Паўля Сператуса, захоўваецца ў калекцыі Брытанскай Бібліятэкі.

Шмат спрэчак вялося пра тое, да якога веравызнання належаў Скарына. Сам ён не адносіў сябе ні да каталікаў, ні да праваслаўных. Узнікае пытанне: для каго ён друкаваў сваю Біблію? Усё відавочна — яна была надрукавана для хрысціян без уліку іх канфесійнай прыналежнасці. Менавіта такое стаўленне да Слова Божага наводзіць на думку, што Скарына разважаў як сапраўдны пратэстант.

Але ён дакладна не быў пратэстантам, таму што само «слова гэтае з'явілася ў 1529 годзе. Не быў ён і лютэранінам, таму што пачаў друкаваць беларускую Біблію ў 1517 годзе, а Лютэр пераклаў Новы Запавет на нямецкую мову толькі ў 1522 годзе. Сам пачатак Рэфармацыі адлічваюць толькі з 31 кастрычніка 1517 года, калі Марцін Лютэр прыбіў да брамы Вітэнбергскай царквы свае знакамітыя 95 тэзаў супраць гандлю індульгенцыямі. Але ж выданне Бібліі на нацыянальнай мове паўсюль лічыцца галоўнай падзеяй Рэфармацыі». [3] Дык, можа, наша, беларуская, Рэфармацыя пачалася раней за нямецкую?

«Звычайна гістарыяграфія разглядае Скарыну як дзеяча культуры, перакладчыка, друкара, мастака. Але ж выданне Бібліі на мове, набліжанай да народнай, — гэта




падзея Рэфармацыі, рэлігійная справа. На пачатку XVI стагоддзя існавалі толькі два пераклады Біблії на сучасныя славянскія мовы — чэшская і беларуская. І абодва выдадзеныя ў Чэхіі. Ці гэта выпадкова?» [10, с. 16].

Ідэі пратэстантаў былі надзвычай прывабнымі, асабліва сярод магнацкіх колаў. Невыпадкова ў сярэдзіне XVI стагоддзя да рэфармацыйнага руху далучыліся амаль усе магнацкія і княскія роды Беларусі, а таксама шматлікія шляхецкія дынастыі. Да тых або іншых плыняў Рэфармацыі належалі многія дзяржаўныя і палітычныя дзеячы, багасловы, філосафы, пісьменнікі, сярод якіх такія славутыя асобы, як Мікалай Радзівіл Чорны, Астафій Валовіч, Леў Сапега, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Андрэй Волан, Саламон Рысінскі, Андрэй Рымша, Гальяш Пельгрымоўскі і сотні іншых. Спачуваў Рэфармацыі кіеўскі ваявода, лідэр праваслаўнай партыі, Канстанцін Астрожскі [12, с. 189].

Што за прычына такой прыхільнасьці, такіх рашучых крокаў, чаму прадстаўнікі старажытных беларускіх праваслаўных і каталіцкіх знакамітых родаў, беларуская феадальная і палітычная эліта парывала з традыцыйнай рэлігіяй, адмаўлялася ад веры бацькоў, уступала ў канфлікт і са сваімі сем'ямі, і са сваім станам, і з каралеўскай уладай, і з канстанцінопальскім патрыярхатам або з рымскай курыяй?! Канечне, прычына не ў асабістых амбіцыях, шляхецкіх свавольствах, даніне модзе і т.п., а свядомай светапогляднай і грамадзянскай пазіцыі, у жаданні рэфармаваць наяўнае рэлігійнае, сацыяльна-палітычнае, эканамічнае, духоўна-культурнае жыццё грамадства, а самае галоўнае — паспрабаваць стварыць незалежную з аднаго боку ад Рыма, з другога — ад Канстанцінопаля і Масквы, нацыянальную царкву.

Справа ў тым, што сапраўды прывабнымі для буйных феадалаў, а таксама гараджан, былі ідэі царкоўнай незалежнасці і нацыянальнай царквы, якія, як вядома, змяшчала ў сабе Рэфармацыя. Пратэстанцкая царква ўяўлялася





Мікалаю Радзівілу Чорнаму, Мікалаю Радзівілу Рудаму і іншым у якасці самастойнай нацыянальна-дзяржаўнай царквы. Была створана аўтаномная адміністрацыйна-тэрытарыяльная царкоўная сістэма (шэсць дыстрыктаў — Віленскі, Завілейскі, Наваградскі, Рускі, Берасцейскі, Жмудскі — на чале з суперінтэндантам, з сінодамі агульнацаркоўнымі і ў дыстрыктах), з даволі выразнымі элементамі дэмакратыі і парламентарызму [14, с. 156–157].

Што тычыцца пратэстанцкай канцэпцыі царквы як інстытута грамадства і дзяржавы, то трэба адзначыць наступнае. Царква трактавалася як саюз вернікаў, аб'яднаных евангельскім вучэннем і таінствамі хрышчэння і прычашчэння. Служкі царквы, святары ў пратэстантызме не з'яўляліся адметным, прывілеяваным станам, а былі роўныя з міранамі. Апроч таго, у выпадку неадпаведнасці сваёй пасадзе, яны здымаліся міранамі. У гэтым акце закладзены пэўныя элементы будучага буржуазнага рэспубліканізму. Раннія рэфарматары былі прыхільнікамі лаяльнасці і неўмяшальніцтва царквы ў дзяржаўныя справы. Кіраваліся наступным прынцыпам, які пакінуў сам Ісус Хрыстос: «Што цэзарава, аддайце цэзару, а што Божае — Богу» [1, Мар. 12:17]. Менавіта такой канцэпцыі прытрымліваўся канцлер Леў Сапега, былы пратэстант, пра што ён пісаў у сваім знакамітым лісце да Ясафата Кунцэвіча.

Мала таго, пратэстанцкая дактрына аказала выключнае ўздзеянне на далейшае грамадскае развіццё еўрапейскіх краін, у тым ліку і Беларусі. Ідэолагі пратэстантызму нацэльвалі чалавека на свецкія зямныя рэаліі — працу, сям'ю, побыт, самаўдасканаленне і г. д. У пратэстантызме складваўся новы тып чалавека — чалавека, які ўсведамляе адказнасць за сваю справу, даражыць сваёй прафесійнай рэпутацыяй, чалавека разважлівага, памяркоўнага, талерантнага, сумленнага, карацей кажучы, той тып асобы, які адпавядаў новаму буржуазнаму грамадству, што на-





раджалася. На думку Макса Вебера, аўтара вядомай працы «Пратэстанцкая этыка», канцэпцыя свецкага прадвызначэння чалавека з'яўлялася адной з самых значных ідэй, створаных Рэфармацыяй. Пратэстанцкая этыка, меркаваў Вебер, сфарміравала ў чалавеку «дух капіталізму», г. зн. спецыфічны псіхічны склад, для якога характэрныя працалюбства, ашчаднасць, памяркоўнасць, прафесійная добрасумленнасць і г. д. Засвоеныя пры дапамозе выхавання, гэтыя маральныя якасці спрыялі станаўленню тыпу асобы новага часу, эпохі рынкавай эканомікі і свабоднага прадпрымальніцтва. У Беларусі асноўныя падставы этыкі пратэстантызму былі выкладзены ў «Катэхізісе» (1562), які быў надрукаваны ў Нясвіжы за аўтарствам Сымона Буднага, Лаўрэнція Крышкоўскага і Мацея Кавячынскага [8, с. 7].

Нацыянальна-культурны сэнс беларускай Рэфармацыі нельга пераацаніць. Вельмі значная роля айчыннай Рэфармацыі ў развіцці культуры наогул і нацыянальнай беларускай культуры ў прыватнасці. З пратэстантызмам звязана развіццё ў Беларусі адукацыі, кнігадрукавання, рэлігійна-філасофскай і грамадска-палітычнай думкі, літаратуры. Яскравы прыклад — узнікненне першых твораў на народнай беларускай мове: «Катэхізісу», «Апраўдання грэшнага чалавека перад Богам» Сымона Буднага, «Евангелля» Васіля Цяпінскага і інш. Дзякуючы настойлівасці беларускіх паноў-пратэстантаў другі і трэці Статуты ВКЛ былі выдадзены не на лацінскай, а на беларускай мове. Пратэстантызм стымуляваў развіццё агульнай адукаванасці грамадства: кожны глава сям'і мусіў умець чытаць Біблію і тлумачыць яе сваім блізкім [3].

У XVII ст. адбываецца пэўная змена пазіцый пратэстанцкіх цэркваў па ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Гэта было выклікана новай сацыяльна-рэлігійнай хваляй, якую ініцыявала Рыма-каталіцкая царква Заходняй Еўропы, — конррэфармацыяй. У выніку анексіі Беларусі і Літвы





Расійскай Імперыяй (1772–1795) пратэстанцкія цэрквы былога Вялікага княства Літоўскага былі падпарадкаваныя розным дэпартаментам імперскага ўрада. Так, пасля апошняга падзелу (1795) і сама Літоўская кансісторыя ў Вільні стала падпарадкоўвацца расійскаму Міністэрству юстыцыі.

Ва ўсходняй Беларусі, якая стала часткай Расіі яшчэ ў 1772 г., лютэране і кальвіністы першапачаткова адчулі нават некаторае палягчэнне ад уціску, які яны адчувалі з боку радыкальных каталіцкіх колаў у пару Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Напрыклад, лютэранская парафія ў Полацку заснавала новы будынак царквы ў 1775 г. У 1780 г., па асабістым дазволе Кацярыны ІІ, новую царкву заснавалі і магілёўскія лютэране: пры наведванні Магілёва імператрыца загадала тамтэйшаму праваслаўнаму біскупу Каніскаму перадаць лютэранам адну з незапатрабаваных праваслаўных пабудоў. На плане Менска 1809 г. з'явілася лютэранская царква, якой яшчэ не было на плане 1793 г. У Віцебску, паводле некаторых дадзеных, у 1833 г. расійскімі ўладамі быў перададзены пад лютэранскую святыню будынак былога касцёла XVIII ст. [8, с. 8].

Такім чынам, падсумоўваючы папярэднія заўвагі адносна Рэфармацыі як спробы стварэння нацыянальнай царквы на Беларусі, можна прыйсці да высновы, што, на жаль, спроба зрабіць пратэстанцкую царкву царквой нацыянальна-дзяржаўнай не была да канца паспяховай. На гэта меўся шэраг прычын. Адсутнасць пэўнага кансалідуючага цэнтра або асобы, як, напрыклад, гэта было ў Германіі і Швейцарыі. Ідэі Рэфармацыі слаба распаўсюдзіліся сярод простага насельніцтва ВКЛ. Але, нягледзячы на тое, што ўрэшце Контррэфармацыя перамагла, эканамічныя, сацыяльна-палітычныя і духоўна-культурныя вынікі Рэфармацыі так або інакш захаваліся ў грамадскім жыцці і менталітэце беларускага народа. Гэта — ідэя эфектыўнай гаспадаркі, свабоды, добрасумленнай працы,

сваёй зямлі, верацярпімасці, вяршэнства законаў, правоў і годнасці чалавека, каштоўнасці адукацыі, культуры, роднай мовы, ведаў, філасофіі, сінтэзу Усходу і Захаду. Напрыканцы трэба сказаць, што спроба гэтая пакінула пасля сябе ідэю рэлігійна-царкоўнай незалежнасці, якую беларускія дзяржаўныя і царкоўныя дзеячы намагаліся рэалізаваць на працягу гісторыі і якая не страціла сваёй актуальнасці і да нашых дзён.





**Спіс літаратуры і крыніц**

**1.** Библия учебная с комментариями Джона Мак-Артура. Славянское Евангельское Общество. — Минск, 2004. — 2201с.

**2.** Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. / Рэдкалегія: Г.П. Пашкоў і інш. — Мн.: БелЭн, 2005. — Т. 1. — 688с.

**3.** История церквей Союза ЕХБ в Беларуси // [Электронны рэсурс] — Рэжым доступа: http://www.baptist.by/view.php?v=whobaptistsare. — Дата доступа: 25.07.2009.

**4.** Карев, А.В. История христианства. ФРГ, 1990 — 430 с.

**5.** Лютер, М. 95тезисов. — Москва, 2001.

**6.** Лютер, М. Избранные сочинения. — Спб, 1994.

**7.** МакГрат, А. «Богословская мысль реформации». Одесса, 1994 г.

**8.** Падокшын, С. Рэфармацыя на Беларусі: сэнс, вынікі, лёс // Спадчына. — 2003. — № 1. — С. 4–8.

**9.** Падокшын, С. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990. — 123 с.

**10.** Падокшын, С., Мялешка В. Асвета ў Беларусі ў XVI і першай палавіне XVII стагоддзя // Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. — Мінск, 1968. — С. 15–36.

**11.** Подокшин, С. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. — Мінск, 1970.

**12.** Падокшын, С. Раннепротестантская этика в Беларуси // Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. — С. 182–223.

**13.** Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелЭн, 2001. — Т. 6, кн.1. — С. 177–178.

**14.** Kosman, M. Reformacja i Kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świecie propagandy wyznaniowej. — Wrociaw etc., 1973. — 230 c.



# ИСТОКИ АСТРОЛОГИЧЕСКОГО СИМВОЛИЗМА В ТВОРЧЕСТВЕ СИМЕОНА ПОЛОЦКОГО

*Гайдук Г.В.*

Цель данной статьи — ознакомить читателя с некоторыми предпосылками возникновения астрологического символизма в панегирике Симеона Полоцкого «Орел Российский», а также и других произведениях. Для этого нам необходимо осветить взгляд Симеона Полоцкого на доклассическое естествознание.

Остановимся на мировоззрении и научных представлениях Симеона Полоцкого. Судить о них мы можем по комментариям к богословскому сочинению под названием «Венец вери кафолическоя», написанному Симеоном в 1670 году. Вот что пишет по этому поводу Н.И. Костомаров (1817–1885), украинский и российский историк [6]:

«…Симеон изложил своеобразную и уродливую систему космографии, показывающую его знакомство с западными астрологическими бреднями: результаты современных ему научных исследований мало до него прикасались. Существует трое небес: эмпирейское, неподвижное, самое высшее, кристальное, движущееся с неизреченною скоростью и твердь, разделяющаяся на два пояса, первый звезд неподвижных, а второй планет. Планетное небо разделяется на семь кругов или поясов по числу планет, известных тогда: Крон, Дей, Ар, Солнце, Афродита, Ермий, Луна. Симеон приводит баснословные расстояния от каждой планеты до другой. От земли до тверди восемьдесят тем миль (т.е. 800 000), а от верха земли до эмпирейского неба так далеко, что если ехать туда со скоростью восьмидесяти миль в час, то времени понадобилось бы 50 000 лет. Звезды описываются так: «Веществом чисты, образом круглы, количеством





велики, явлением малы, качеством светлы, дольних вещей родительны (имеют влияние на перемены в воздухе). Планеты по местоположению ниже звезд; иногда они ходят по одному пути со звездами, а иногда по противоположному. Самая малейшая звезда в восемьдесят раз больше земли, а следующая по величине звезда превосходит пространство земли в 170 раз. Солнце в 166 раз больше земли[1]; луна же в 30 раз меньше. Всякий час солнце совершает 7160 миль, из которых каждая требует человеческой ходьбы два часа. Земля представляется круглою, черною, тяжелою, холодною; она кентр (центр) всего мира, мрачна и содержит в себе ад. Землетрясение происходит от терзания заключенных в ее недре духов».

По исследованиям Костомарова получается, что Полоцкий во второй половине XVII в. придерживался геоцентрической системы, спустя сто лет после изложения Коперником (1473–1543) гелиоцентрической картины мира. Некоторые фрагменты панегирика «Орел Российский» говорят об обратном [5]. «Разсуждение о небеси и земли» Симеона Полоцкого требует более детального изучения. Белорусский исследователь Владимир Орлов [2, с. 235] пишет, что ректор Киево-Могилянской коллегии Иннокентий Гизель (ум. 1684) придерживался взглядов Коперника и проповедовал их в то время, когда там учился Симеон Полоцкий.

Чтобы подготовить читателя к восприятию символических образов «Орла Российского», где автор в стихотворной форме описывает «многозверный путь зодийный», который должен пройти царевич Алексей, сделаем небольшой культурологический экскурс астрологии.

Использование Симеоном Полоцким астрологической

---

[1] Справочная информация из Астрономического календаря на 2005 г.: Средний диаметр Земли 12 756 км. Диаметр Луны 3 476,0 км = 0,2725 экв. диаметра Земли $^{3}/_{11}$ земного; Диаметр Солнца 1 390 600 км. Среднее расстояние до Солнца 1 а.е.= 23455,04 экват. радиуса Земли = 149 504 000 (± 17 000) км. Объём Солнца = 1 303 800 объёмов Земли.




символики было вполне закономерным. Астрология является неразрывной частью европейского культурологического дискурса Средних веков и эпохи Возрождения. Например, зодиак представлял собой общеизвестную и популярную символическую систему. Зодиакальные символы мы находим в живописи, архитектуре, геральдике. В европейской поэзии существовал особый литературный жанр — восхваления новорожденных и их родителей с использованием астрологических символов, знаков и примет — генетлиаконик. После Альберта Великого (ок. 1193–1280), Парацельса (1493–1541), Мишеля Нострадамуса (1503–1566) пророческие стихи С. Полоцкого не кажутся несвоевременными и неожиданными.

Остановимся на малоизвестном факте. В 1660 г. царь Алексей Михайлович созвал церковный собор, чтобы обсудить оставление патриархом Никоном патриаршего престола (указ от 8 января 1660). В числе других на собор был приглашён архимандрит Полоцкого Богоявленского монастыря Игнатий Иевлевич[2] (указ от 10 января 1660 г. о предоставлении Игнатию Иевлевичу девяти подвод «с саньми и проводниками, в езде не издержав ни часу»). В числе лиц, сопровождающих полоцкого архимандрита, находился и Симеон

2 Игнатий (Иевлевич) (26 сентября 1619 — около 1686, по другим сведениям — в 1667 году) — белорусский педагог-просветитель, литератор, церковный деятель; архимандрит Богоявленского монастыря в Полоцке. Известен отзывом о деле патриарха Никона и речью царю. Родился в семье небогатого могилёвского мещанина. Первоначальное образование получил в Шклове. Изучал богословие и медицину в Замойской академии. Преподавал в Киево-Могилянской коллегии. Вместе с её ректором организовывал славяно-греко-латинскую академию в Яссах (1640). В 1647 году принял монашеский постриг. Жил во Львове, Кракове, Орше, с 1655 года — в Полоцке. Стал игуменом Богоявленского монастыря, при котором открыл школу и библиотеку. С 1660 года архимандрит полоцкого Борисоглебского монастыря. Живя в Полоцке, опекал Симеона Полоцкого. В пребывание царя Алексея Михайловича в Полоцке выступил с речью (1656). Принимал участие в церковном соборе 1660 года.





Полоцкий. 19 января полоцкая делегация была принята царём в Кремле, где Симеон прочёл знаменитое приветствие царю. Вероятно, именно тогда Игнатий Иевлевич преподнёс Алексею Михайловичу изготовленный для него в Полоцке календарь на белорусском языке. Принцип построения календаря схож с польскими календарями и прогностиками.

На титульном листе «Царю найяснейшему и великому господарю Алексею Михайловичю всея Великия и Малыя и Белыя Русьи самодержцу и прочая, Годовый разпись, или Месечило. От рождества Бога и Спасителя нашего Иисуса Христа на год тисящный шестсотный и шестдесятый. 1660». В документе видны более поздние исправления на «1670» [1].

Коротко опишем содержание календаря. Содержание условно можно разделить на две части. Первая: месяцеслов в таблицах, таблица каждого месяца занимает разворот двух листов, где на левой странице указаны числа месяца арабскими цифрами; числа месяца буквенной цифирью; дни недели, обозначенные начальными буквами; фазы Луны; имена святых православной церкви, предсказания о погоде. На правой странице: числа месяца буквенной цифирью по старому стилю; числа месяца по новому стилю; дни недели, обозначенные начальными буквами латинских названий; имена святых католической церкви; предсказания о политических событиях. Вторая часть — астрологические предсказания. Дополнительно даны объяснения условных знаков, обозначающих разные действия.

Именно этот календарь даёт нам представление о системе и уровне знаний Симеоном Полоцким астрологии. Весьма вероятно, что составителем мог быть Игнатий (Иевлевич), изучавший богословие и медицину в Замойской академии, которая во многом была похожа на Краковскую.

Интересные данные по исследованию рукописи приводит И.Н. Лебедева: «…Среди многочисленных помет на полях календаря есть такие, которые П.П. Пекарский при-

писал Петру I. С этим не согласилась М.Н. Мурзанова, знаток почерка Петра I, сочтя, что «записи на полях календаря ошибочно приписаны Петру I (почерк не его руки)». Историко-почерковедческая экспертиза, проведённая руководителем Лаборатории кодикологических исследований и научно-технической экспертизы документа Отдела рукописей РНБ Д.О. Цыпкиным, показала, что пометы на календаре сделаны не Петром I (Заключение № 1/2003 от 7 февраля 2003 г.). Действительно, представляется маловероятным, чтобы Петр I стал изучать календарь на 1660 год (за 12 лет до его рождения). Это скорее пометы, сделанные тем, кому календарь и предназначался, — царём Алексеем Михайловичем. Известно, что Алексей Михайлович пользовался несколькими почерками...»[7, с. 27].

Возьмём два важных для России и Беларуси события 1660 г.:

- 15 января 1660 г. русская армия И.А. Хованского овладела городом Брестом;

- 8 октября войска Речи Посполитой в битве возле города Чаусы отразили наступление русской армии и принудили её отступить до Смоленска.

Наша задача — посмотреть вероятность прогноза данных событий в календаре.

Прогноз в таблицах:

**«Януарий :**

(6) Мало весело небеснех знамян обличие.

(8) Оттвори оббе оче, и делай разумно.

**(11) На Скорпияна и на Водника**[3] **Марш (**Марс)[4] **(:ратный бог) глядит остро, и гневно (Москов*ия и иныя*).**

(17) Обаче может им и зде, от Ирени (:мировния богиньи)

[3] В тексте примечание: «На державі под теми знамении стоящи». Водником называли Водолея.

[4] В тексте знаков планет нет. Здесь вставлены для понимания текста.




приязнив и радостен погледь прибити.
(26) Великая небеспечность пред ногами[5].
(28) Что высоко седит, да смотрит в напред.
(30) Мятеж.

**Октоврий:**

**(1) Бою ся, что иездец червленаго коня, Иездец черного коня, свое владанье уступит, или попустит.[6] Литва, Русское царство, Полское кралество, Дунское кралество, Холшченское княз.**
(10) Змий может зде едну смертную рану добити.
(14) Что ти ся здает, о павовой ошибе?
(19) Леву растет смелость.
(21) Советние изби отверзают ся: зястие думи бивают.
(26) Знаменито обличие звезд.
(28) Зело небезпечно.
(29) Людие справляют никое велико дело».

Прогноз из второй части календаря:

**«Януарий**

**На день вторыи, с прочми, до 9-го. Месяц млад**.
Начало годишща некажет ся добро. О премиселнех и омамльивех учинкех будет много слышати. Кто бе хотел при столу, в табору, в окопе, и за муром безпечно седити: могел бе лехко во велику беду впасти. Мнозим свои замисли неповедут ся по воле.
**На день 9.** Указует ся, како мнози на мнозех **местах ко мировним замислом придут: и скажут ся готови ко приазнивой [: со своеми противники] и обедвим странам почестной згоде. Но понеже прелестныи Меркуриш (Меркурий) всегда будет руки при игре имети, и пре-**

[5] В тексте примечание: «Все знаках несчастье».

[6] Чёрными чернилами другим почерком добавлено: «иездец на белом коне». Остальные приписки трудноразличимы, понятно, что комментируются или добавляются фактические события.

**лишним говореньем будет дела мутити: Сумню, что в добрех докончаньех немало труда и тяжкости прибудет.**
**На день 17.** Счастие и несчастие будут ся около великех людей вертити: Нине подвижая, нине понижая. Различним главним градом немечским время грозит силние напасти.
**На день 25.** Девойко нешещи [или непрехаждай ся] далеко. Марш (Марс) заседает. Колу и Рибам недостанет воды: а белому коню зоби. Со всех стран на ниех твердо искушенье мерит.
**На день 31**
Коло. Клевска, Оснапручска, Магунтска, Пиценска, держава. Рибы. Лоренска, Ракуска, держава.

**Октоврий**

**На день 1.** Чаю, яко на мнозех местех будут владале различние немощи, хороби, и слабости. Смерт на времена ест велику причину дала знаменитим пременам. Тоже ся может и нине случити. Птичему кралю будут сети метани: остражен убо да будет.
**На день 8. Ох, как би могла различна места добити воздуха, и от множини своех бед ослобождена бити: когда би ых вещи от високея руки с реснотою вождени били.**
Нашва ест во великой цене, далеко и широко славна.
Нашва[7] зовет ся всакое рукоделие, еже ся зделает из злата, сребра, и драгаго каменю, ч[е]л[о]веку на ношение, ради устроя и красоти. Немци зовут клейнот.
**На день 16.** Гонци будут угоднее листи понашати. Добро би приятии спаслыву пригоду, дондеже ест при нас: Скоро бо может минути. ***Детелинныи лист*** [8] починает сохнути.
**На день 24.** Необичайна звезда сретение, и ретко бивающе небесное обличие, зде случити ся имает:

[7] Текст вынесен за поля с левой стороны: «Нашва. Францускае кральевство».

[8] Текст вынесен за поля с правой стороны: «Ландавска держава».





славнех убо припадов и упадков подобает чекати.
**На день 31.** Войник ест добро строен и хвалит ся на мнозех местех, яко му ся все добро поводит. Аз же ти советую нераздражи своея фортуни: понеже стоит на вертлывом кругу, перната, и лехконога. Коыи ч[е]л[о]веки ест разумен, поступует сь ньею по дворанску, по лехку, и разсудно. Самое вещем збитие хощет уистити, что нине припадут славнех особ сходки, и велицех дел докончаня. Тужити ест достойно, чему Марш (Марс) тулику слободу и мощ ко говореню имает».

Символический язык предзнаменований календаря имеет характерные особенности. В нём используется геральдическая и мифологическая символика для обозначения стран и личностей, что было так характерно для творчества Симеона Полоцкого. Не будем утверждать, что этот календарь — работа Симеона, но влияние его на структуру многих произведений Полоцкого очевидна.

Конечно, достаточно удачный прогноз политических событий не мог не заинтересовать царя Алексея Михайловича, даже из чисто утилитарных соображений, так как такими прогнозами пользовались и немцы, и поляки. Согласитесь, что знание законов составления прогнозов могло дать ключи к решению тактических и стратегических военных задач. Вероятно, именно как специалиста по прогнозам Симеона Полоцкого пригласили к царскому двору, кстати оказались и его способности виртуозного поэта и богослова и знание латыни.

И. Татарский так описывает выступление перед царём Симеона Полоцкого в январе 1660 г.: «19-го января прибывшая в Москву Полоцкая братия представлялась государю. В ряду последовавших при этом приветствий выступил пред государем и Симеон, приветствуя его, по примеру прежняго времени, мастерски составленными панегирическими стихотворениями. Стихотворения эти,





произнесенныя так же 12 отроками, представляются уже весьма значительным произведением начинающей панегирической музы Полоцкаго, обнаружившей впоследствии столь необычайную плодовитость. В потоке льстиваго воодушевления Симеон, между прочим, сравнивает здесь Россию с небом, уподобляя царя и его семейство различным светилам небесным:

Небом Россию нарещи дерзаю,
Ибо планиты в оней обретаю.
Ты солнце; луна Мария царица,
Алексий светла царевич денница.
Его же зари пресветло блистают,
Его бо щастем врази упадают…
Утро денница обыче сияти,
О дни будущем благовествовати.
Во мале даст Бог день пресветлый будет,
Егда денницы светлости прибудет.
В многих победах на вся страны света,
Точию дай Бог многа ему лета.

При приеме полоцкой братии, по-видимому, присутствовала и женская половина царскаго семейства; потому что Симеон и в отношении к ней, продолжает здесь ту же льстивую параллель.

Вместе с этими стихотворениями пред государем были произнесены: «Диалог краткий», где в вопросах и ответах выражалась льстивая похвала царю, царице, царевичу и царевнам, — «Приветство о новонарожденной царевне Марии» и «Диалог краткий о государе царевиче и великом князе Алексии Алексиевиче».

Таким образом, в 1660 году произведениям стихотворнаго искусства Симеона удалось в первый раз проникнуть в палаты царскаго дворца» [12, с. 56].





Думаю, Симеон произносит именно эти стихи неслучайно. Когда реальные события подтвердят прогноз по календарю, царь обязательно вспомнит и молодого поэта. Вероятно, что так и случилось, ибо по мнению И. Татарского [12, с. 64], когда в июле 1663 года по доносу Романа Боборыкина возникло дело о клятве патриарха Никона на царя и его семейство, Симеон уже находился в Москве (в числе лиц, посланных для расследования упоминается царский толмач Симеон). В первые годы пребывания Симеона в Москве в его обязанности входило и толмачество латыни. Татарский пишет, что по воле государя одним из первых дел Симеона было обучение по Альвару[9], а его первыми учениками были молодые подьячие Приказа Тайных Дел.

Своим символическим творчеством Симеон проложил мост между морфологией мышления западного «книжного» человека и восточного. Он посеял в царской семье семена западного естествознания, которые уже при Петре I дали свои плоды, укрепили силу и мощь русской державы.

Приверженность символическому языку астрологии и мифологии Симеон Полоцкий сохранил на весь период своего творчества, но этот аспект редко учитывается современными исследователями, так как доклассическое естествознание до настоящего времени остаётся мало изученной областью науки.

[9] Татарский уточняет, что это обучение латыни по руководству Альвара.





**Список литературы и источников**

**1**. Астрологический календарь на 1660 год. Библиотека Академии наук (Санкт-Петербург) (БАН). П I А № 2.

**2**. *Арлоў, У.А*. Таямніцы Полацкай гісторыі / У.А. Арлоу. — Мінск, 2000.

**3**. Астрономический календарь на 2005. Выпуск 10 (107). — Нижний Новгород, 2005.

**4**. *Гайдук, Г.В.* Духовный зодий, или загадка Симеона Полоцкого / Г.В. Гайдук. — Минск, 2006.

**5**. *Гайдук, Г.В.* Неизданные рукописные произведения Симеона Полоцкого / Г.В. Гайдук // Симеон Полоцкий. Сборник документов. — Минск, 2008.

**6**. *Костомаров Н.И.* Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. Второй отдел: Господство дома Романовых до вступления на престол Екатерины II. Выпуск пятый: XVII столетие. Глава 10. ЕПИФАНИЙ СЛАВИНЕЦКИЙ, СИМЕОН ПОЛОЦКИЙ И ИХ ПРЕЕМНИКИ (http://www.zhurnal.ru/magister/library/history/kostomar/kostom41.htm)

**7**. *Лебедева, И.Н.* Библиотека Петра I. Описание рукописных книг. — СПб, 2003. С. 24–25.

**8**. *Сазонова, Л.И.* Поэзия русского барокко. Вторая половина XVII — начало XVIII вв. / Л. И. Сазонова. — М., 1991.

**9**. Симеон Полоцкий. Избранные сочинения / С. Полоцкий / отв. ред. М.О. Скрипиль. — М., 1953.

**10**. Симеон Полоцкий. Вирши / С. Полоцкий / науч. ред. В.Г. Короткий. — Минск, 1990.

**11**. Симеон Полоцкий и его книгоиздательская деятельность. Русская старопечатная литература. — М., 1982.

**12**. *Татарский, И.* Симеон Полоцкий / И. Татарский. — М., 1866.



# ЖЫЦЦЁВАЯ ПРАСТОРА ПОЛАЦКА XVI–XVIII СТСТ.

*Дук Д.У.*

У эпоху ранняга Новага часу (XVI–XVIII стст.) у Полацку нарадзіліся Францыск Скарына і Сімяон Полацкі. Усходнеславянскі першадрукар Францыск Скарына атрымаў у Полацку пачатковую адукацыю, але ўвесь яго далейшы творчы лёс не быў звязаны з родным горадам. Сімяон Полацкі (Пятроўскі-Сітняновіч) пачаў сваю творчую дзейнасць у Полацку, а росквіт яго літаратурнага таленту адбыўся ў Маскве. Такім чынам, два геніяльныя культурныя дзеячы эпохі ранняга Новага часу абавязаны Полацку сваім нараджэннем і станаўленнем як асобаў. Аднак для абодвух родны горад так і не стаў асяроддзем раскрыцця лепшых творчых памкненняў.

Чаму так адбылося? У першую чаргу гэта стала вынікам гістарычных рэаліяў, у якіх апынуўся Полацк у часы дзейнасці Францыска Скарыны і Сімяона Пятроўскага-Сітняновіча.

У артыкуле прапануецца раскрыццё асаблівасцяў развіцця жыццёвай прасторы Полацка ў XVI–XVIII стст. — эпохі, якая стала пераломнай у сацыяльна-эканамічным і, як следства, палітычным развіцці Полацка. Характарыстыка развіцця жыццёвай прасторы *таго часу* дазволіць зразумець ступень спадкаемства спадчыны *сучаснага* Полацка і выявіць асаблівасці гістарычнага «фону» фарміравання вялікіх дзеячаў далёкага мінулага.

Полацк з’яўляецца горадам з больш чым тысячагадовай гісторыяй. Гарадская прастора фарміравалася ў межах некалькіх этапаў:

I этап — станаўленне вакольнага горада («малога» пасада) IX–XI стст. і пасяленняў за р. Палатой (з X ст.), фарміраванне

сацыятапаграфічнай структуры Вялікага і Запалоцкага пасадаў у XI ст., існаванне пасялення на месцы Старой Слабады пры вусці р. Бельчыца (з X ст.) і Вострава на р. Дзвіне (XI ст.). Першыя сведчанні пра існаванне паркана Запалоцкага пасада (XI ст.).

II этап — XII–XV стст. Спыненне існавання вакольнага горада, скарачэнне плошчы Запалоцкага пасада (пачатак XIII ст.), спыненне існавання пасяленняў за р. Палатой, уключэнне старога гарадзішча ў склад Вялікага пасада і павелічэнне тэрыторыі Верхняга замка за кошт часткі Вялікага пасада (пачатак XIV ст.).

III этап — першая палова XVI ст. (да 1563 г.). Утварэнне левабярэжных пасадаў Полацка (Востраўскі, Крыўцоў, Слабадскі і Экіманскі) за кошт перасяленцаў з Вялікага і Запалоцкага пасадаў (пачатак XVI ст.). Скарачэнне тэрыторыі Запалоцкага пасада (першая палова XVI ст.). Будаўніцтва паркана Вялікага і Запалоцкага пасадаў (каля 1501 г.).

IV этап — 1563–1579 гг. Пабудова на частцы Вялікага пасада Ніжняга замка, змена русла р. Палаты (1563 г.). Спыненне існавання Вялікага пасада. Аднаўленне тэрыторыі Запалоцкага пасада ў межах паркана.

V этап — 1579 г. — канец XVIII ст. Перанос гарадской рынкавай плошчы (1581 г.). Пераўтварэнне старога гарадзішча ў гарадскія могілкі (XVII ст.). Арганізацыйнае аб'яднанне левабярэжнага насельніцтва Полацка ў межах Крыўцовага і Экіманскага пасадаў.

Такім чынам, у XVI–XVIII стст. асноўнымі горадаўтвараючымі пасадамі з'яўляліся Вялікі, Запалоцкі, Крыўцоў са слабодамі і Экіманскі.

### *Забудова, назвы вуліц і планіроўка вулічнай сеткі Вялікага пасада.*

Вялікі пасад меў звычайную для сярэдневяковага горада пагонную забудову. На пасадзе сяліліся мяшчане,





шляхта і духавенства. З канца XVI і ў XVII стст. на тэрыторыі Вялікага пасада магчыма лакалізаваць сядзібы асобных прадстаўнікоў шляхецкіх родаў Дарагастайскіх, Друцкіх-Сакалінскіх, Шчытоў, Зяновічаў, Сяляваў.

Паводле плана Полацка 1707 г. (Мал. 1), на Вялікім пасадзе былі размешчаны цэрквы Богаяўленская, царква побач з вул. Прабойнай, на поўнач ад плошчы размяшчаўся дамініканскі сабор, на захад — езуіцкі калегіум. У 1733–1745 гг. быў змураваны езуіцкі касцёл Прывітання Найсвяцейшай Панны Марыі (асвечаны ў 1833 г. у імя Мікалая Мірлікійскага), у якім на манер сярэдневяковага Сафійскага сабора адбываліся соймікі шляхты [Глінннік, 2001, с. 202].

На копіі з дапаўненнямі таго ж плана (Мал. 2) на поўдзень ад дамініканскага манастыра адлюстравана выява пабудовы з двухсхільным дахам і вежай-званніцай з заходняга боку.

На плане Полацка 1910 г. пазначаны назвы вуліц, якія згадваюцца ў актавых кнігах сярэдзіны XVII–XVIII стст., сярод іх Прабойная, Вазнясенская, Невельская, Азараўская (Азаравая), Спаская. Ёсць усе падставы меркаваць, што гэтыя вуліцы ў XVII — пачатку XX стст. былі размешчаны на адных і тых жа месцах пад аднолькавай назвай. Выключэннем з'яўляецца вул. Вазнясенская, пра што гаворка пойдзе ніжэй.

Так, вул. Прабойная пралягала па мерыдыяльным накірунку (поўдзень — поўнач) у межах гарадскіх умацаванняў. Натуральнымі межамі пачатку і канца гэтай вуліцы з'яўляліся з поўдня — р. Дзвіна, з поўначы — р. Палата.

Выява гэтай вуліцы ёсць на планах пачатку XVIII ст. Вуліца праходзіла па-над ровам насупраць вала Ніжняга замка і вяла ў бок Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.

Вул. Прабойная ў XVII ст. пачыналася ад брамы з боку р. Дзвіны [Тарасаў, 1998, с. 58], з усходу перасякала рынак і далей працягвалася да р. Палаты. На гэтай вуліцы ў 1656–1657





гг. быў размешчаны цвінтар і касцёл Св. Крыжа, «ідучы па *вул. Прабойнай* з *рынка ў Плігаўках*» (Мал. 3). Паводле запісу ў актавай кнізе 1704 г. вядома, што вул. Прабойная размяшчалася, «ідучы па накірунку ад *Верхняга і Ніжняга замкаў* міма *езуіцкага шпіталя* да *яўрэйскай школы*». Яўрэйская школа і сінагога, паводле плана Полацка 1778 г., знаходзілася на месцы сённяшняй сядзібы па вул. Ніжне-Пакроўскай, 7, дзе падчас пабудовы дома ў 2002 г. былі адкрыты магутныя цагляныя падмуркі канца XVII ст. Гэтая ж школа адлюстравана і на копіі плана 1707 г., і на плане 1778 г., пазначаная, аднак, ужо як драўляная.

Вул. Прабойная спыніла сваё існаванне напрыканцы XVIII ст., калі адбылася перапланіроўка горада і яна была змешчана на адзін рад забудовы на захад (Мал. 4).

Вул. Вазнясенская, якая на плане 1910 г. перасякала вул. Ніжне-Пакроўскую і была размешчана ў мерыдыяльным накірунку, у XVII–XVIII стст. размяшчалася паралельна вул. Вялікай, на поўнач ад яе. На сучаснай карце Полацка гэта адпавядае тэрыторыі паміж паўднёвай вуліцай праспекта Ф. Скарыны і Ніжне-Пакроўскай. Вул. Вазнясенская атрымала сваю назву ад царквы Узнясення Хрыстова, якая згадваецца ў «Полацкай рэвізіі 1552 г.» «в месте» [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 9, 21, 176].

Паводле запісаў у актавай кнізе полацкага магістрата 1656–1657 гг., вул. Вазнясенская мела выхад на вул. Прабойную, каля выхаду на вул. Прабойную была размешчана побач з *«пляцамі зборавымі»* і рынкам, размяшчалася «*ў тыле ратушы* і *гасціннага дома*». У магістрацкай кнізе згадваецца дом «на улицы Возънесенской, на кгрунте меском до ратуша полоцъкого належачом стоячый, толко самый будынокъ на полчверти пляца збудованый, з одного боку подле дому Войтеха Закревского, а з другого огорода и кгрунту тежъ меского в тыле самого ратуша и дому гостинного будучого» [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 348].





Шматлікія справы ў актавай кнізе 1656–1657 гг. фіксуюць наяўнасць агародаў і сядзіб палачан паміж вул. Вялікай і Вазнясенскай. Адна з такіх сядзіб была даследавана археалагічна [Здановіч, 2003]. Вул. Вазнясенская пралягала каля «пляцаў зборавых» (былы кальвінскі збор) [Baranowski, 1994], таксама каля ратушы і гасціннага дома. Гэта з'яўляецца прамым пацверджаннем меркавання аб размяшчэнні полацкай ратушы ў паўднёвай частцы сучаснай плошчы Свабоды на месцы дома генерал-губернатара. Менавіта гэты будынак быў узведзены напрыканцы XVIII ст. на месцы трох асобных мураваных пабудоў і быў размешчаны каля вул. Прабойнай насупраць згаданага ў магістрацкай кнізе 1656–1657 гг. пляца на вул. Вазнясенскай. Такім чынам, вул. Вазнясенская праходзіла з паўднёвага боку ад ратушы, будынак якой фасадам быў разгорнуты на поўнач, у бок рынку.

Важнай выяўленчай крыніцай, якая дае ўяўленне пра знешні выгляд гэтага найважнейшага элемента гарадской інфраструктуры магдэбургскага Полацка, з'яўляецца абраз св. Мікалая з фондаў НПГКМЗ (Мал. 5). Абраз датуецца сярэдзінай XVIII ст. [Ярошевич, 2009, с. 19] і, вельмі верагодна, паходзіць з Экіманскай царквы св. Георгія, у якой згадваецца абраз св. Мікалая «у вялікіх памерах, са срэбранымі шатамі, старажытнага малявання»[1] [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 114]. Сувязь многіх абразоў калекцыі НПГКМЗ з уніяцкай Георгіеўскай царквой у Экімані ўжо была вызначана мастацтвазнаўцамі [Ярошевич, 2009, с. 19].

Выява святога змешчана на фоне горада з выразнай барочнай забудовай. Ёсць падставы для суаднясення намаляванага горада з Полацкам XVIII ст. На гэта ўказваюць асаблівасці размяшчэння архітэктурных аб'ектаў: злева —

[1] Праблему паходжання дадзенага абраза ўскладняе факт наяўнасці ў калекцыі жывапісу сярэдзіны XVIII ст. двух стылістычна адрозных абразоў св. Мікалая.





высокая шмат’ярусная званніца, за фігурай святога — грамадзянская забудова, справа — будынак, які нагадвае ратушу [Ярошевич, 2009, с. 19]. Будынкі згрупіраваны адпаведна кампазіцыйнай пабудове ўсіх намаляваных аб’ектаў. Адпаведна згаданаму парадку, пазначаныя будынкі могуць быць суаднесены з Сафійскім саборам, езуіцкім калегіумам і полацкай ратушай. Пра тое, што на абразе адлюстраваны менавіта будынак ратушы, сведчаць, па-першае, архітэктурныя асаблівасці будынка, па-другое, размяшчэнне яго за сцяной рынка, за якой, як вядома, і размяшчалася полацкая ратуша.

Для вул. Невельскай і Спаскай, якія былі размешчаны паралельна р. Дзвіне (накірунак усход — захад) натуральнай мяжой з захаду з’яўляўся прыродны роў ля падэшвы Ніжняга замка, які выразна прасочваецца на планах XVIII ст. [Тарасаў, 1998, с. 57]. Тое ж можна адзначыць і для вул. Азаравай. З усходу развіццю гэтых вуліц замінаў гарадскі паркан, аднак вул. Невельская і Спаская перасякалі пасадскія ўмацаванні і па-за межамі паркана пераўтвараліся ў гасцінцы.

Вул. Невельская размешчана насупраць Невельскай праязной брамы (запіс у актавых кнігах 1650, 1656–1657 гг.). Гэтая вуліца выходзіла за межы крапасной сцяны, дзе вакол яе ў XVII ст. размяшчаліся агароды палачан. Гэтыя агароды цягнуліся на поўнач да самай р. Палаты. Невельская брама была размешчана на скрыжаванні вул. Невельскай (сучасная вул. Войкава) і вул. Крапасной, якая існавала ў XIX — пачатку XX стст. [Тарасаў, 1998, с. 56].

Паводле актавых кніг 1650 і 1656–1657 гг., вул. Азаравая заканчвалася каля астрога (Ніжняга замка). У актавай кнізе 1721 г. пазначана, што вул. Азаравая перасякае *былы* гарадскі паркан. На ёй быў размешчаны *Андрэеў млын* і *цагельня.* Цагельня займала чвэрць гарадскога пляца паміж агародамі. Кніга полацкага гарадавога магістрата 1779 г. прадстаўляе надзвычай каштоўныя звесткі пра размяш-





чэнне тапаграфічных аб'ектаў на гэтай вуліцы. Так, паводле запісу ў кнізе 1779 г., вул. Азаравая цягнулася ад Ніжняга замка да *валатовак* паралельна вул. Баравой. Той факт, што валатоўкі г. зв. «усходняга» курганнага могільніка IX–X стст. захаваліся да канца XVIII ст., да нядаўняга часу прадстаўлялася практычна неверагодным. Пазначэнне «валатовак» дазваляе вызначыць адзін з маркераў паўночнай мяжы старажытнага курганнага могільніка ў раёне сучаснай вул. Камуністычнай (былой Азаравай), што, дарэчы, адлюстравана на плане 1707 г.

Частка вул. Азаравай была ўскрыта падчас раскопак 1987–1988 гг. Гэтая вуліца ў XII ст. праходзіла па адной трасе з больш познімі вуліцамі XVII–XVIII стст. З гэтага вынікае, што планіроўка Вялікага пасада і яго забудова былі вельмі кансерватыўнымі на працягу многіх стагоддзяў [Тарасаў, 1998, с. 66].

Вул. Спаская выходзіла за межы паркана і была размешчана паралельна р. Дзвіне (запіс у актавых кнігах 1650 і 1656–1657 гг.) аналагічна накірунку пачатку XX ст. Гэтая вуліца таксама згадваецца ў актавай кнізе 1779 г.

Размяшчэнне шэрагу вуліц Вялікага пасада таксама магчыма рэканструяваць, узяўшы за аснову план Полацка 1910 г. і больш раннія. Так, відавочна, што накірункі асноўных вуліц, якія знаходзіліся ў межах крапасной сцяны, у XVIII–XIX стст. засталіся без зменаў. На планах канца XVIII ст. паміж вул. Ніжне-Пакроўскай і Верхне-Пакроўскай пазначана вуліца, якая адсутнічае на плане 1910 г. Таксама, паводле планаў канца XVIII ст., шэраг вуліц быў размешчаны на поўнач ад вул. Невельскай.

У «Полацкай рэвізіі 1552 г.» і актавых кнігах XVII ст. на Вялікім пасадзе згадваецца вул. Іллінская, якая выходзіла за межы абарончых умацаванняў. Сярод крапасных вежаў згадваецца Іллінская, якая на плане 1910 г. знаходзілася на скрыжаванні вул. Крапасной і Віцебскай [Тарасаў, 1998,





с. 56]. Відавочна, што вежа і вуліца, якая да яе прымыкала, мелі аднолькавую назву. Назва вуліцы, верагодна, паходзіць ад назвы Іллінскай царквы, згаданай пад 1552 г. [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 21].

Паводле запісу ў кнізе 1656–1657 гг., вул. Іллінская была размешчана паралельна вул. Вазнясенскай. Запіс у кнізе гарадавога магістрата 1779 г. дэталізуе размяшчэнне вуліцы *«на рынку»,* па накірунку з *«крамнага рада».* У 1755 г. вуліца праходзіла праз мост былога рова паркана і вяла да валатовак, справа «на рагу» размяшчаліся гарадскія пляцы [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 34, арк. 271 адв.].

На вул. Іллінскай да 1780 г. (прыезд у Полацк Кацярыны ІІ) быў пабудаваны вялікі трохпавярховы корпус езуіцкага калегіума, размешчаны насупраць паўднёвага фасада касцёла св. Стэфана. На заходнім канцы вул. Іллінскай былі пабудаваны два карпусы, адзін насупраць другога, па розных баках вуліцы. Вуліца заставалася праезджай нядоўга — пасля 1780 г. яна была перагароджана трохпавярховым будынкам езуцкага калегіума (корпус зруйнаваны ў 1964 г.) [Викентьев, 1910, с. 22–24].

У выніку археалагічных раскопак 2000–2003 гг. у паўднёвым дворыку былога езуіцкага калегіума былі адкрыты сляды сядзібнай забудовы. Адзін з дамоў першай паловы XVI ст. меў падклет з драўляным дрэнажом [Дук, 2003]. Гэты дрэнаж, відавочна, злучаўся з вулічным. Сёння магчыма вызначыць размяшчэнне гэтага дома па вул. Іллінскай. Вуліца ў XVI ст. мела драўляны вадасцёк.

У актавай кнізе за 1732 г. згадваюцца валатоўкі і «царкавішча» св. апосталаў Пятра і Паўла: «idąc ulicą Illinską w pole do Przesmuszek za wołotowkami alias gurami Bałhoreyskiemi, po prawey stronie teyże ulicy Illinskiey, przeciw cerkowiszcza Swiętych apostołow Piotra i Pawła» («ідучы вуліцай Іллінскай ў поле да Прасьмушак за валатоўкамі альбо гарамі Балгарэйскімі, па правым баку той жа вул.




шляхты, которых полонизация коснулась очень мало, оставалось живое русское слово. Эта простая речь со стороны тогдашних образованных в польском духе западно-русов рассматривалась только как язык низшего класса, которым можно изредка пользоваться и в литературе, но лишь с целью вызвать смех у людей образованных. Такою областью литературы могла быть лёгкая сатира и комедия»[17].

[17] Е.Ф. Карский. Белорусы. Т. 3: Очерки словесности белорусского племени. Ч. 2: Старая западнорусская письменность. Пг., 1921. С. 210–211.

## Список литературы и источников

**1**. *Архангельский, А.С.* Очерки из истории западно-русской литературы XVI–XVII вв. Борьба с католичеством и западно-русская литература конца XVI — перв. пол. XVII в. // ЧОИДР. 1888. Кн. 1.

**2**. *Житецкий, П.И.* Очерк литературной истории малорусского наречия в XVII и XVIII вв. Ч. I. Киев, 1889.

**3**. *Карский, Е*. Что такое древнее западнорусское наречие; отд. оттиск из «Трудов IX археол. съезда в Вильне». М., 1893.

**4**. *Карский, Е.Ф.* Белорусы. Т. 3: Очерки словесности белорусского племени. Ч. 2: Старая западнорусская письменность. Пг., 1921.

**5**. *Карташев, А.В.* Очерки по истории русской церкви. 1993. Т. I, II.

**6**. *Симеон Полоцкий*. Избранные сочинения / Подготовка текста, статья и комментарии И.П. Еремина. М. — Л., 1955.

**7**. *Соболевский, А.И.* История русского литературного языка / Изд. подготовил А.А. Алексеев. Л., 1980.

**8**. *Соловьев, С.М.* История России с древнейших времен. М., 1990. Кн. V.

**9**. *Титов, Федор.* Типография Киево-Печерской лавры. Исторический очерк (1606–1616–1916 гг.), Т. I (1606–1616–1721 гг.). Киев, 1918.

**10**. *Толстой, Н.И.* Взаимоотношение локальных типов древнеславянского литературного языка позднего периода (вторая половина XVI–XVII в.) // Славянское языкознание. Доклады советской делегации. V Международный съезд славистов… М., 1963.

**11**. *Успенский, Б.А.* Краткий очерк истории русского литературного языка (XI–XIX вв.). М., 1994.



# ЭКСПАЗІЦЫЯ МУЗЕЯ-БІБЛІЯТЭКІ СІМЯОНА ПОЛАЦКАГА ЯК АДЛЮСТРАВАННЕ ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ СІМЯОНА ПОЛАЦКАГА

*Шумовіч А.У.*

25 сакавіка 1994 года, да 365-годдзя з дня нараджэння Сімяона Полацкага, на яго радзіме, у Полацку, адкрыўся Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага. Размясціўся ён пад адным дахам з Музеем беларускага кнігадрукавання ў будынку жылых келляў былога Богаяўленскага манастыра — помніку архітэктуры XVIII стагоддзя, у памяшканні былой Кацярынінскай царквы, што знаходзіцца над падмуркамі драўлянага будынка брацкай школы XVI ст., у якой некалькі год працаваў Сімяон Полацкі. Гэта адзінае вядомае нам гістарычнае месца ў Полацку, звязанае з яго іменем. Тым больш, што да гэтага часу гэта выдатная асоба нідзе не была ўшанавана, хаця сваім талентам і дзейнасцю Сімяон Полацкі зрабіў вялікі ўклад у развіццё культуры двух народаў — рускага і беларускага.

У экспазіцыі музея-бібліятэкі Сімяон Полацкі паўстае як пісьменнік, грамадскі дзеяч, бібліяфіл, чалавек еўрапейскага ўзроўню адукаванасці і культуры. Бібліятэка, сабраная Сімяонам, была адным з самых вялікіх кніжных збораў XVII стагоддзя. Сімяон завяшчаў яе чатыром манастырам, у тым ліку Полацкаму Богаяўленскаму. Таму лагічна ўзнікла ідэя стварыць у гонар выдатнага палачаніна менавіта музей-бібліятэку, дзе наведвальнікі маглі б не толькі пазнаёміцца з экспазіцыяй, прысвечанай асветніку і гуманісту, але і ў літаральным сэнсе сутыкнуцца з той эпохай дзякуючы адпаведна аформленаму інтэр’еру. Па-мастацку

гэту ідэю ўвасобіў мастак Ігар Куржалаў. Экспазіцыя ўяўляе сабой інтэр'ер заходнееўрапейскай бібліятэкі XVII–XVIII стст. Музей-бібліятэка аб'ядноўвае музейную экспазіцыю, прысвечаную Сімяону Полацкаму, і навуковую бібліятэку з чытальнай залай. Экспазіцыйная плошча складае 134,5 м$^2$. У музеі прадстаўлена больш за 5 тысяч кніг асноўнага фонду. Фонд навуковай бібліятэкі (больш за 12 тысяч адзінак захоўвання) уключае калекцыю заходнееўрапейскай і рускай кнігі XIX — пачатку XX ст., сучасную літаратуру гуманітарнага профілю, перыядычныя выданні. Збіранне матэрыялаў для музея пачалося ў 1991 годзе, практычна з нуля. Пачатак фондам будучага музея быў пакладзены ў Маскве на святочным сходзе, прысвечаным 500-годдзю Францыска Скарыны. У дар Полацкаму гісторыка-культурнаму запаведніку былі перададзены 12 кніг XVII–XVIII стст. з фондаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У.І. Леніна, і сярод іх — тры выданні Сімяона Полацкага. Супрацоўнікі запаведніка прыклалі шмат намаганняў для рэалізацыі ідэі музея-бібліятэкі, які стаў вынікам трохгадовых даследаванняў і пошукаў патрэбных дакументаў, матэрыялаў, экспанатаў. Большасць матэрыялаў, якія датычацца жыцця і дзейнасці Сімяона Полацкага, знаходзяцца ў архівах і бібліятэках Масквы і Санкт-Пецярбурга, але значная частка іх вядома даследчыкам. За вельмі кароткі час вопытнымі майстрамі Пецярбурга, Масквы, Мінска былі зроблены дзесяткі муляжоў кніг, факсімільных лістоў з вершамі Сімяона Полацкага.

Навуковыя супрацоўнікі запаведніка паставілі перад сабой мэту — зрабіць музей-бібліятэку жывым цэнтрам вывучэння спадчыны Сімяона Полацкага і іншых беларускіх асветнікаў(1).

Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага — гэта музей комплекснага профілю з рысамі гістарычнага, мемарыяльнага і літаратурнага музеяў. Сутнасць навуковай канцэпцыі была ў спалучэнні мемарыяльна-гістарычнай часткі





музея з работай навуковай бібліятэкі як неад'емнай часткі экспазіцыі.

Гістарычная частка экспазіцыі пабудавана паводле праблемна-храналагічнага прынцыпу. Біяграфія і творчасць Сімяона Полацкага прадстаўлена двума раздзеламі: 1) беларускі; 2) маскоўскі.

Беларускі перыяд жыцця і дзейнасці Сімяона Полацкага прадстаўлены наступнымі падтэмамі і комплексамі: вучоба ў Полацку, Кіеве, Вільні; прыняцце манаства ў Полацкім Богаяўленскім манастыры, праца настаўнікам у брацкай школе, літаратурная дзейнасць і прычыны ад'езду ў Маскву. Гэтыя этапы жыцця Сімяона Полацкага адзначаны на карце Еўропы XVII ст.

Сімяон Полацкі (Самуіл Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітняновіч; 1629–1680) — беларускі і рускі паэт, драматург, перакладчык, педагог, рэлігійны і грамадскі дзеяч — нарадзіўся ў Полацку ў 1629 г. Па меркаваннях даследчыкаў, паходзіў з купецкага саслоўя. Пачатковую адукацыю атрымаў у Полацку. У 1637–1651 гг. — студэнт Кіева-Магілянскай калегіі (потым акадэміі), дзе яго настаўнікамі былі выдатныя ўкраінскія вучоныя і пісьменнікі П. Магіла, Л. Барановіч, І. Гізель, І. Іяўлевіч, І. Галятоўскі, К. Каяловіч. У Кіеве ён атрымаў званне «дыдаскала» (настаўніка). У экспазіцыі прадстаўлена гравюра «Кіева-Магілянская акадэмія», партрэты Лазара Барановіча і Пятра Магілы, а таксама копіі падручнікаў XVII ст.: «Евангелле вучыцельнае» (Еўе, 1616); «Буквар» В. Бурцава (1634); «Граматыка» М. Смятрыцкага; «Дыдаскалія» XVII ст.; падручнік лацінскай мовы; кнігі І. Гізеля «Мир с Богом» (Кіеў, 1659), І. Галятоўскага «Ключ разумения» (Кіеў, 1659). Прадстаўлены шэраг ранніх вершаў Сімяона Полацкага 1640–1653 гг. на польскай і лацінскай мовах: «Знакі сямі планет...», «Карціна чалавечага жыцця», «Новаадкрыцці», «Аб чатырох порах года», «Месяцаслоў» — якія адлюстроўваюць яго першыя крокі





ў літаратуры. Потым Сімяон вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі. У экспазіцыі прадстаўлена гравюра з выявай Вільні ў XVII ст., канспекты С. Полацкага «Кароткі курс паэтыкі». З 1656 па 1664 год Сімяон — настаўнік брацкай школы Полацкага Богаяўленскага манастыра. З прыходам Сімяона вакол Богаяўленскага манастыра згрупаваліся таленавітыя пісьменнікі, сярод якіх і яго былыя настаўнікі — іераманах Філафей Утчыцкі, Ігнацій Іяўлевіч (з 1655 г. ігумен Полацкага Богаяўленскага манастыра, апекаваўся над мясцовымі паэтамі, у тым ліку і над Сімяонам Полацкім), таленавітыя выхаванцы іх школы Васіль Яновіч, Сава Капусцін і інш. Фактычна, гэта была полацкая школа беларускіх літаратараў і настаўнікаў. Перыяд школьнага настаўніцтва Сімяона ў Полацку прадстаўлены вершамі «Предисловие ко благочестивому читателю» (прычыны сыходу ў манастыр), «Семь свободных наук», шэрагам вершаў для дэкламацыі.

Падчас вайны 1654–1667 гг. Сімяон Полацкі сімпатызаваў Расіі, вітаў цара Аляксея Міхайлавіча пры ўзяцці Полацка дэкламацыяй «Метры», а таксама прысвяціў шэраг віншаванняў на ўзяцце іншых гарадоў. Гэты комплекс прадстаўлены вершамі Сімяона Полацкага «Взенто образ Наисвятейшей Богородицы с Полоцка до Москвы», «Прилог к преп. матери Евфросинии», «Стихи утешные к лицу единому».

З 1664 г. Сімяон Полацкі жыў у Маскве. Арганізаваў «лацінскую» школу пры Заіконаспаскім манастыры, заснаваў незалежную ад патрыяршай цэнзуры Верхнюю друкарню (1678 г.), быў першым прыдворным паэтам расійскіх цароў, выхавацелем дзяцей Аляксея Міхайлавіча. Прапаведніцкая дзейнасць Сімяона Полацкага адбілася ў двух зборніках яго пропаведзяў «Обед душевный» (1675, выдадзены ў 1681) і «Вечеря душевная» (1676, выд. 1683 г.). Вынікам тэалагічна-арганізацыйных спрэчак стаў трактат «Жезл правления», накіраваны супраць стараверства. Аснову літаратурнай





спадчыны Сімяона Полацкага складаюць два вялікія зборнікі, падрыхтаваныя ў канцы 1670-х, але выдадзеныя пасмяротна: «Вертоград многоцветный» і «Рифмологион». «Вертоград…» яшчэ пры жыцці Сімяона Полацкага быў адзначаны сучаснікамі як энцыклапедыя, з якой чэрпалі веды па хрысціянскай сімволіцы, гісторыі, антычнай міфалогіі, тэалогіі. За год да смерці Сімяон працаваў над праектам рускай вышэйшай школы на ўзор Кіева-Магілянскай акадэміі. Але заўчасная смерць перашкодзіла гэтым планам. Памёр Сімяон Полацкі ў 1680 г. на 51-м годзе жыцця (2). Але ідэя Сімяона, хаця і ў вельмі скажоным выглядзе, была рэалізавана ў 1686 годзе, калі ў Маскве на Нікольскай вуліцы пачала працаваць Славяна-грэка-лацінская акадэмія. Пахаваны Сімяон Полацкі ў Заіконаспаскім манастыры ў Маскве, каля магілы паставілі дзве каменныя стэлы з эпітафіяй, якую напісаў Сільвестр Мядведзеў:

Зряй, человече, сей гроб, сердцем умилися,
О смерти учителя славна прослезися:
Учитель бо зде токмо един таков бывый,
Богослов правый, церкве и догматы хранивый.

Муж благоверный, церкви и царству потребный,
Проповедию слова народу полезный
Симеон Петровский, от всех верных любимый,
За смиренномудрие преудивляемый…

Прадчуваючы блізкую смерць, Сімяон склаў завяшчанне. Сваю бібліятэку ён завяшчаў Полацкаму Богаяўленскаму, Маскоўскаму Заіконаспаскаму, Кіеўскім Пячэрскаму і Брацкаму манастырам. Вядома ж, у Полацк гэтыя кнігі не трапілі, таму было вырашана ўзнавіць у Полацку бібліятэку Сімяона Полацкага.




Літаратурная, багаслоўская і навукова-асветная спадчына Сімяона Полацкага шматгранная і не перастае здзіўляць даследчыкаў сваёй энцыклапедычнасцю. Сам пісьменнік паспеў надрукаваць толькі некаторыя свае творы. У 1681 — 1683 гг., пасля смерці Сімяона, «Обед душевный» і «Вечерю душевную» выдаў яго паслядоўнік і сакратар Сільвестр Мядзведзеў. У экспазіцыі музея-бібліятэкі маскоўскі перыяд жыцця і дзейнасці Сімяона Полацкага прадстаўлены даволі шырока і наглядна і падзяляецца на два раздзелы і некалькі вялікіх комплексаў. Першы раздзел складаецца з трох комплексаў.

Комплекс I. «Жыццё у Маскве, удзел у Вялікім Маскоўскім Саборы».

Прадстаўлены наступнымі матэрыяламі: факсімільнай копіяй гравюры XVII ст. з планам Масквы, мініяцюрай «Цар Аляксей Міхайлавіч» (факсімільная копія з рукапіснай кнігі XVII ст. «Тытулярнік»), хромалітаграфіяй «Заіконаспаскі манастыр», гравюрай з выявай патрыярха Нікана і кнігай Сімяона Полацкага «Жазло праўлення», выдадзенай у Маскве ў 1753 годзе.

Комплекс II. «Выхаванне царскіх дзяцей».

Тут можна ўбачыць мініяцюры з Тытулярніка XVII ст. з выявамі царэвічаў Сімяона, Аляксея, Пятра, цара Фёдара Аляксеевіча; вершы Сімяона Полацкага «На рождение царевича Симеона» ў форме зоркі, «Вирши на рождение Петра», «Венец веры кафолическия» (прысвечаны царэўне Соф'і); кнігі «Орел российский» і «Глас последний» (копіі). Паліца з кнігамі «Брашно духовное» (Іверскі манастыр, 1666), Іаан Залатавуст «Беседы на 14 посланий» (Кіеў, 1623), Іаан Залатавуст «Беседы на деяния апостольские» (Кіеў, 1624), «Устав» XVII ст. і інш. ствараюць вучэбную атмасферу таго часу(3).

Коплекс III. «Апошнія гады жыцця Сімяона Полацкага».

Прадстаўлены факсімільнымі копіямі духоўнага за-





вяшчання Сімяона Полацкага, рукапісам С. Мядзведзева «Эпітафія на смерць Сімяона Полацкага» (на 4-х аркушах) і «Прывілея» — праекта першай вышэйшай навучальнай установы ў Маскве і інш.

Другі раздзел — «Творчасць Сімяона Полацкага» — складаецца з некалькіх тэм.

Тэма I. «Рукапісныя зборнікі». Раскрываецца наступнымі экспанатамі:

– муляж кнігі С. Полацкага «Вертоград многоцветный», факсімільныя копіі асобных аркушаў з кнігі «Вертоград…», вершы Сімяона Полацкага на тэмы маралі, духоўнасці, патрыятызму («Правда и ложь», «Мудрость», «Богатство и нищета», «Родителям», «Добро», «Учитель» і інш.);

– муляж кнігі «Рыфмалагіён» (рукапісны зборнік вершаў Сімяона Полацкага 1659–1680 гг.);

– вершы Сімяона Полацкага, напісаныя ў стылі літаратурнага барока (у форме зоркі, крыжа, сонца, лабірынта, акраверша).

Сімяон Полацкі як драматург прадстаўлены ў экспазіцыі п’есамі «Комедия о блудном сыне» і «Беседы», а таксама гравюрай з выявай тэатральных дзеяў у ХУІІ стагоддзі.

Шматграннасць асобы Сімяона Полацкага дазволілі яму праявіць сябе ў розных сферах рускага духоўнага жыцця 60–70-х гг. XVII ст. Адным з яго асноўных дасягненняў з’яўляецца кнігавыдавецкая дзейнасць. За чатыры гады (1679–1683), заснаваная Сімяонам Верхняя друкарня выдала 6 кніг: «Букварь языка словенска» Сімяона Полацкага (1679), другое выданне «Тестамента Василия царя греческого» (1680), «Псалтырь рифмотворная» С. Полацкага (1680), «История о Варлааме и Иоасафе», «Обед душевный» С. Полацкага (1681) і «Вечеря душевная» яго ж (1683) (4).

Аснову экспазіцыі музея-бібліятэкі складаюць кніжныя матэрыялы. У экспазіцыю ўведзены таксама





і іншыя прадметы: прылады для пісьма (чарнільніцы, гусіныя пёры), падсвечнікі, ларэц для захоўвання казны, бюсты філосафаў, арфа, глобус XVII ст., якія дапамагаюць наведвальнікам паглыбіцца ў атмасферу эпохі, больш поўна ўспрымаць асноўную ідэю музея. Прадстаўлены таксама навуковыя працы сучасных даследчыкаў, прысвечаныя вывучэнню жыцця і дзейнасці Сімяона Полацкага: А. Татарскага, Л. Званаровай, Елеонскай, Быленіна, Л. Сазонавай, У. Конана, Л. Сідаровіч і інш.

Экспазіцыя музея-бібліятэкі разлічана на розныя катэгорыі наведвальнікаў і на тры ўзроўні ўспрыняцця:

– азнаямляльна-сузіральны, які знаёміць у агульных рысах з асобай Сімяона Полацкага, яго дзейнасцю і творчасцю;

– навукова-даследчы, разлічаны на спецыялістаў (чытальная зала, навуковая бібліятэка);

– эстэтычна-выхаваўчы, скіраваны перш за ўсё на моладзь і дзяцей, з арганізацыяй масавых мерапрыемстваў.

Пабудаваная такім чынам экспазіцыя дае магчымасць выкарыстоўваць розныя формы работы з наведвальнікамі:

– экскурсіі;

– музейна-педагагічныя заняткі (у рамках праграмы «У дапамогу настаўніку беларускай літаратуры» для 10 кл. і ў рамках праграмы «Полацказнаўства» для вучняў 5, 6, 7 класаў);

– мерапрыемствы — такія як «Пасвячэнне ў рыцары гісторыі» (для вучняў 10 кл. Наваполацкага ліцэя) і ўручэнне дыпломаў выпускнікам Полацкага дзяржаўнага універсітэта;

– творчыя сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, прэзентацыі новых выданняў (у музея-бібліятэкі даўняе плённае супрацоўніцтва з мясцовымі літаратурнымі аб'яднаннямі «Наддзвінне», «Полоцкая ветвь», «ТВЛ»).

У зале музея праходзяць навуковыя канферэнцыі





НПГКМЗ, а таксама і міжнародныя, такія як «Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі», «Сімяон Полацкі: светапогляд, грамадска-палітычная і літаратурная дзейнасць», «Скарынаўскія чытанні» і інш.

Такім чынам, музей-бібліятэка Сімяона Полацкага — гэта жывы арганізм, які пастаянна развіваецца. На сённяшні дзень гэта адзін з самых наведваемых музеяў запаведніка.

**Список литературы и источников**

**1**. *Краско, В.Д.* Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага: ад ідэі да рэальнага жыцця // Сімяон Полацкі: светапогляд, грамадска-палітычная і літаратурная дзейнасць (матэрыялы II Міжнароднай навуковай канферэнцыі 18–19 лістапада 2004 г.). — Полацк: НПГКМЗ, 2005. — С. 58–64.

**2**. Сімяон Полацкі // Мысліцелі і асветнікі Беларусі. X–XIX стагоддзі: Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1995. — С. 296–307.

**3**. *Шумовіч, А.У.* Выданні XVII ст. друкарні Кіева-Пячэрскай лаўры ў фондах НПГКМЗ // Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (па выніках навукова- даследчай работы ў 2003 г.). Полацк: НПГКМЗ, 2004.

**4**. *Шумовіч, А.У.* Выданні Сімяона Полацкага ў фондах Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. // Сімяон Полацкі: светапогляд, грамадска-палітычная і літаратурная дзейнасць (матэрыялы II Міжнароднай навуковай канферэнцыі 18–19 лістапада 2004 г.) — Полацк: НПГКМЗ, 2005. — С. 130–143.



# ПРОЛАЖНАЕ «ЖЫЦЦЕ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ» (БАН ЛІТВЫ, ПРОЛАГ НА САКАВІК — МАЙ, F. 19/98): СТРУКТУРА І МОЎНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

*Ярмоленка Э.В.*

Сярод найлепшых узораў усходнеславянскай агіяграфіі вылучаецца «Жыціе Еўфрасінні Полацкай», створанае, як мяркуюць, у дамангольскі перыяд [2, с. 147; 6, с. 57], магчыма, у хуткім часе пасля смерці Еўфрасінні Полацкай (памерла князёўна-ігумення ў 1173 г.). Аляксей Мельнікаў лічыў, што складзена яно было да 1187 г. і першапачаткова мела пролажны (кароткі) характар, а перароблена і пашырана ў канцы XV — пачатку XVI стст. [5, с. 117–118].

Сёння вядома звыш 180 спісаў «Жыція Еўфрасінні Полацкай», якія падзяляюцца даследчыкамі на некалькі рэдакцый. Так, А. Мельнікаў вылучыў 6 рэдакцый: 1) рэдакцыя Зборнікаў змешанага складу; 2) рэдакцыя «Кнігі ступеннай царскага радаслоўя»; 3) рэдакцыя Вялікіх Міней Чэцціх; 4) рэдакцыя Пролажная I (спіс Пролага Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, F. 19/98); 5) рэдакцыя Пролажная II (спіс Пролага Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, Ціт. № 239); 6) рэдакцыя кнігі мітрапаліта Дзімітрыя Растоўскага. Акрамя таго, у межах рэдакцый А. Мельнікаў вылучаў варыянты (рады спісаў, звязаныя агульнасцю паходжання ад архетыпу рэдакцыі, якія маюць нязначныя рознчытанні на ўзроўні сэнсу [5, с. 122]. У прыватнасці, у складзе рэдакцыі Зборнікаў змешанага складу ім вылучаны 4 варыянты.





Існуе меркаванне, што названыя вышэй пролажныя рэдакцыі «Жыція Еўфрасінні Полацкай» узніклі ў выніку перапрацоўкі і скарачэння спісаў жыція пашыраных рэдакцый. Падставамі для такога меркавання называюць наступныя факты: 1) наяўнасць дзвюх пролажных рэдакцый, 2) у спісах пролажных рэдакцый маюцца не ўсе мікрасюжэты, якія ёсць у пашыраных рэдакцыях, 3) звесткі, зафіксаваныя ў спісах пролажных рэдакцый, прадстаўлены і ў спісах пашыраных рэдакцый [5, с. 166].

Мы звярнуліся да вывучэння пролажнага «Жыція Еўфрасінні Полацкай», якое захоўваецца ў БАН Літвы (F. 19/98, Пролаг на сакавік — май. XVI ст., арк. 357–358 адв.; далей П).

Вобраз святой ствараецца аўтарам згодна з жыційным канонам. Ён падае звесткі пра яе жыццё і адданае служэнне Богу: паведамляе пра паходжанне Еўфрасінні (бѧше бо кн҃зь въ градѣ полотьскꙋ именемь всеславъ ... и бѣ в҄ него меньшїи сн҃ъ именемь геѡргїи. ѿ негоⷤ родисѧ сїа прп҇ⷣⷪбнаа[1*]), яе свядомае адмаўленне ад шлюбу і выбар для сябе іншага шляху, пострыг у манастыр, пра тое, што испросив҄ши въ еп҇ⷭпа столпъ ст҃ыа софїи, в҄ нем҄ же начатъ подвижнее быти. под҄виг постнически прїимати, што по изъвѣщенїю же аг҃гловоу. изыиде ѿтꙋдоу и иде. идеⷤ бѣ цр҃квица ст҃го сп҃са. метохїа ст҃ыа софїи, пра пострыг Градзіславы, Звеніславы, будаванне царквы Святога Спаса і пра чюдо дивно, якое адбылося пры гэтым, пра тое, што оумысли бл҃жен҄наа в҄торꙋю цр҃квь каменоую же прест҃ѣи бц҃и, пра выпраўленне Міхаіла ў Канстанцінопаль, за абразом Адзігітрыі, пострыг пляменніц Кіраанны і Вольгі, сустрэчу з імператарам (срѣте же и цр҃ь, идыи на оугры), паломніцтва Еўфрасінні ў Іерусалім і яе скон.

Аўтар П нідзе не згадвае пра прыгажосць дзяўчыны

[1*] Ілюстрацыйны матэрыял П падаецца па рукапісе Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, F. 19/98. Пролаг на сакавік — май. XVI ст., арк. 357–358 адв.





(**Вести же разшедшейсѧ по всем градом о мѹдрости еѧ и о блазем ѹчении еѧ и о телесней ѹтвари, бѧше бо лепа лицем. Красота же еѧ многы славныа кнѧзѧ на любление приведе ко отцѹ еѧ** (С1[2*]) — чытаем у пашыраным жыцііі), затое адзначае, што **ѿ дѣтьска възраста бѧше страхъ бж҃їи в̾ неи**, неаднаразова падкрэслівае яе набожнасць, адданае служэнне Богу (**тоѵ же пребываше бг҃ѹ в мл҃тваx**), нават робіць устаўку, якой няма ў іншых вядомых нам спісах: **но ток̾мо на бол̾шаа себе въдасть трѹды иж къ б҃оѵ.**

Пры чытанні П узнікае адчуванне яго блізкасці да спісаў рэдакцыі Зборнікаў змешанага складу. Намі было праведзена супастаўленне пролажнага жыція (П) і чатырох спісаў пашыранага жыція рэдакцыі Зборнікаў змешанага складу з мэтай выяўлення супадзенняў і разначытанняў у гэтых спісах (С1 — Расійская дзяржаўная бібліятэка, Ф. 113, № 632, Жыціі святых з дадаткамі, XVI ст.; С2 — Расійская дзяржаўная бібліятэка, Ф. 299, № 631, Зборнік словаў і жыцій на розныя дні года, XVI ст., С3 — Расійская нацыянальная бібліятэка, ОЛДП F. 185, «Торжественник», XVI ст.; С4 — Бібліятэка Акадэміі навук (Масква), 17.13.22, Зборнік жыцій, сярэдзіна XVII ст.; далей С1, С2, С3, С4 адпаведна).

У разгледжаных спісах падаюцца розныя даты скону Еўфрасінні Полацкай: 23 мая называецца ў П і С3: **мс҃ца маиа въ .кг҃. дн҃ь** — П, **Месѧца маѧ в 23 день** — С3; 24 мая — у С1, С2: **Месѧца майѧ в 24 день**, 25 снежня (відавочна, памылкова) — у С4: **Месеца декобъра в 25 день.** Мяркуюць, што Еўфрасіння памерла ў ноч з 23 на 24 мая [5, с. 99].

Тытул П у першай частцы супадае з тытулам С3 і С4: **Въ тъж дн҃ь оѵспенїе <u>проподо</u><u>бныа мт҃ре нашеѧ єфросинїи</u>** (П) — **Житие <u>преподобныѧ матери нашеѧ єѹфросинии</u>** (С3) — **<u>Житие</u> и жизнь**

2* Ілюстрацыйны матэрыял са спісаў С1–С4 падаецца па выданні: Мельнікаў Аляксей. З неапублікаванай спадчыны: Манаграфіі, артыкулы, вершы, матэрыялы навуковай канферэнцыі, успаміны сучаснікаў. Мінск: Чатыры чвэрці, 2005 (С1 — с. 210–221; С2 — с. 221–243; С3 — с. 244–259; С4 — с. 259–269). Графіка тэкстаў адаптаваная.

преподобные матери нашие єфросинии (С4), аднак у С3 і С4 няма наступнай часткі тэксту, якая ёсць у С1 і С2: игоуменьи ст҃го сп҃са иже в градѣ полотьстѣмь (П) ѿ игѹменьи манастырѧ Свѧтаго Спаса и Пречистыѧ єго Матери, ижи в Полотьсце граде (С1); игѹменьи Вседержителѧ Свѧтаго Спаса и Пречистыѧ єго Матери в граде Полоцкѹ (С2).

Прпⷣⷪбнаа сїа єфросинїа быⷭ҇ оубо ѿ града сего полотьска ѿ— так пачынае старажытны аўтар сваё апавяданне. Гэтай фразы няма ў С1–С4.

У пачатку П ужыты дзве фразы, якія па сваёй форме (а магчыма і функцыі) нагадваюць падзагалоўкі: рожⷣенїе и въспитанїе (П) — скажем, како родисѧ и како въспитасѧ или како възрасте (С1); ѡ велицеи мⷣрости и оученїи еѧ (П) — Вести же разшедшейсѧ по всем градом о мѹдрости еѧ и о блазем ѹчении еѧ и о телесней ѹтвари (С1).

Сустракаюцца выпадкі практычна поўнага супадзення кавалкаў тэксту ў П і С1–С4: в̾паде в̾ недоугь и нача болѣти (П) — впаде в недѹг и нача болети (С1–С4); поусти къ мнѣ сестрѹ градиславѹ (П) — Пѹсти ко мне сестрѹ мою Городиславѹ (С1).

Выяўлены асобныя месцы, агульныя для П і аднагодвух варыянтаў рэдакцыі Зборнікаў змешанага складу, напрыклад: срѣте же и цр҃ь, идыи на оугры. съ великою честїю посла ю въ цр҃ьграⷣ (П) — срете ю царь, идый на ѹгры, с великою честию, посла ю в Царьград (С1) — срете ю царь, идый на ѹгры, с великою честию, послав ю в Царьград (С2) (не зафіксавана ў іншых спісах жыція); патрїар̾хъ же лоука в̾земь и дасть ю слѹзѣ прпⷣⷪбныа єфросинїи. ѡнъ же въземь, принесе ю къ прпдобнеи (П) — Патриарх же Лѹка събрав епископы и соборы вси в Свѧтѹю Софию и благослови ю и даст ю преподобныѧ єѹфросинии слѹзе. Он же с радостию приѧт и принесе своей госпоже єѹфросинии (С2) — Патриарх же Лѹка собрав епископы и все зборы в Свѧтѹю Софию и благослови ю и даст ю слѹзе преподобныѧ єѹфросинии. Он же с радостию приѧт и принесе госпоже своей єѹфросинии (С3) (няма ў С1 і С4).

Шэраг кавалкаў П і С1–С4 утрымлівае даволі блізкі





тэкст, які мае пэўныя несупадзенні рознага характару, напрыклад:

– лексічныя: ѡнъ же въземь, принесе ю къ прпдобнеи (П) — Он же с радостию приѧт и принесе своей госпоже єѵфросинии (С2, С3); сїа прп҃добнаа (П) — сии блаженнаа отроковица (С1); ѡ страшное чюдо! (П) — о дивное чꙋдо! (С1) — о страшное чюдо! (С3); се даю ст҃омоу спасоу, а сама хощꙋ поᷣклонити главоу свою поᷣ иго хв҃о (П) — Сиѧ всѧ даю Свѧтомꙋ Спасꙋ, а сама хощꙋ поклонити главꙋ свою поидо иго Христово (С1) — се даю Дꙋхꙋ, а сама хощꙋ поклонити главꙋ свою под иго Христово (С2) — Се даю Спасꙋ Свѧтомꙋ, а сама хощю поклонити главꙋ под иго Христово (С3) — се даю Свѧтомꙋ Спасꙋ, а сама хощꙋ поклонити главꙋ свою под ногꙋ Христовꙋ (С4); просѧщи (П) — глаголющи (С1); да навыкнеть грамотикїи (П) — да наꙋчитсѧ, — рече, — грамоте (С1); гл҃а ѡц҃оу своемоу (П) — отвещеваше ко отцꙋ своемꙋ (С1); ѿиде (П) — еха (С1) — поиде (С4); брач҆ныа ризы принесе (П) — принесе … ризы многоценны (С1) — принесе … порты многоценныѧ (С2, С3, С4); послѣди же бл҃жен҆наа оумысли цр҃квь ст҃го сп҃са каменоу съз҆дати … и съдѣласѧ цр҃кви ѿ начат҆ка за тридесѧтъ недѣль (П) — по сем блаженнаѧ єѵфросиниа заложи церковь каменꙋ Свѧтаго Спаса, и от начатка доспе за 30 недель (С1); дасть ю минихомъ (П) — предаст ю минихом (С1) — даст ю минихом (С2, С3) — дасть ю минихом (С4); еще въ плоти сꙋщи ст҃ѣи бц҃и (П) — еще при жывоте свѧтыѧ Богородица (С1);

- граматычныя: иже в градѣ полотьстѣмь (П) — ижи в Полотьсце граде (С1); бѧше бо кн҃зь въ градѣ полотьскꙋ именемь всеславъ (П) — Бысть кнѧзь в граде Полотсце именем Всеслав (С1) — Был кнѧзь в граде Полоцькꙋ именем Всеслав (С2) — Бысть кнѧзь Полотьский именем Всеслав (С3) — быше кнѧзь во гради том Полотцкꙋ именем Всеслав (С4); имѣ многы сыновы (П) — имеѧ сыновы многы (С1) — имеѧше сыны многиы (С2) — имѧше сыновы многы (С3) — имѧше сыны многы (С4); ѡна же, въстав҆ши, и поклоньшисѧ трищи (П) — Она же воставши и поклонисѧ трищи (С2); гор҆ко плачасѧ (П) — горко емꙋ плачющꙋсѧ (С1); скоро иде въ монастырь (П) — скоро иде в манастырь (С1) — скоро шед в монастырь (С2) —





скоро вшед в манастыр (С3) — скоро шед в манастырь (С4);

- несупадзенне парадку слоў, сказаў: тоу пребывающи еи нѣколико врѣмѧ (П) — тꙋ ей пребывающей неколико времѧ (С1); тꙋ ей пребывающи некое времѧ (С2); помольшисѧ стѣи. и ѡбрѣтошасѧ плиты въ пещи. и тако съвръшена бы҇с цр҇кви (П) — тако ей помольшисѧ, ꙁаꙋтра по ꙋстроению Божию обретошасѧ в пещи плиты. ї того дни свершиша церковь и крест воꙁставиша (С1); недостав҆ши҇м плитѡ҇м въ пещи, а цр҇кви еще не кон҆чанѣ (П) — уже сконьчаней бывши церкви и мало недоставшим плитам (С1) — уже на скончание малом не доставши плитам (С4).

Граматычныя замены ў П, верагодна, выкліканы скарачэннем (перабудовай) тэксту, напр.: потом проси ꙋ епископа сꙋщаго тогда нарицаемаго їлью, правѧщаго стол свѧтое Софеи, дабы ей велел тꙋ пребыти в церкви свѧтей Софеи в голъбци камене. ї повеле ей да пребывает тꙋ. Вшедши же, начат подвижнейши подвиг постнический восприимати (С1) — потомъ испросив҆ши въ еп҇спа столпъ ст҇ыа софїи, в҆ нем҆ же начатъ подвижнее быти (П).

Нярэдка аўтар П пераказвае тэкст пашыранага жыцця: ѡна же ни въ что҇ж не в҆мѣнила гл҇анїа ѡч҇ѧ (П) — Преподобнаѧ же єꙋфросиниа сего всего небрежаша жалости отца своего (С1); по иꙁвѣщенїю же агг҇ловоу. иꙁыиде ѿтꙋдоу и иде. иде҇ж бѣ цр҇квица ст҇го сп҇са. метохїа ст҇ыа софїи (П) — виде видение: поим ю аггел и веде ю идеже бе церковьца Свѧтаго Спаса метохиѧ Свѧтыѧ Софии… (С1); посла же по в҆сеи братїи своеи, повѣдающи ѿшествїе свое къ їер҇слимоу (П) — Посла же по всей братьи своей поведающи им мысль свою, оже восхоте ити во їерꙋсалим (С1).

У П выяўлена некалькі невялікіх кавалкаў, дзе складальнік вельмі сцісла сваімі словамі перадае эпізоды (згадвае падзеі) з пашыранага жыцця (у гэтых кавалках не ўтрымліваецца дадатковай інфармацыі, якой не было б у спісах С1–С4 ці хаця б у адным з іх): и ѿ дѣтьска въꙁраста бѧше страхъ бж҇їи в҆ неи; ꙗко бы҇с врѣмѧ съч҆тати ю моужеви, и не въсхотѣ, но точїю х҇а жениха собѣ нарек҆ши; тоу же пребываше бг҇ꙋ в млтва҇х; ѡнъ же съ многымъ рыданїемь гл҇голаше; положены




же быша чͨтныа ея мощи въ монастыри прест҃ыа бц҃а. нарицаемыи ѳеωдосїевъ. Выключэнне складаюць дзве заўвагі, зробленыя складальнікам П, якія не маюць адпаведнікаў у іншых спісах жыцця: оумысли цр҃квь ст҃го сп҃са каменоу създати. ꙗже стоить и донн҃ѣ; Послѣди же въсхоте ити до ст҃аго града їерͨлма и поклонитисѧ гробоу гн҃ю. и тамо живот свои скончати, еже и быͨ.

Верагодна, складальнік П не толькі перарабляў кавалкі пашыранага тэксту, але і мяняў іх месцамі. Так, у П словы и вс҃ѧ краснаа мира сего рече ни въ ч҃то же ми еͨ належаць Еўфрасінні (калі князёўна вырашае прыняць пострыг: тако ωтаи ωц҃а и мт҃ри шедши въ монастырь пострижесѧ), у С1–С4 іх прамаўляе Звеніслава, калі прыходзіць у манастыр: Всѧ краснаѧ мира сего ни во чтоже ми сѧ минит С1 — Всѧ краснаѧ мира сего ни в чтоже вменисѧ С2 — Всѧ краснаѧ мира сего ни во чтоже мне сѧ минит С3 — Всѧ краснаѧ мира сего ни во чтоже минит ми сѧ С4.

Пра жыццё Еўфрасінні ў манастыры пасля пострыгу ў П апавядаецца: тоу же пребываше бг҃ѹ в мл҃тваͯ. Падобнае апісанне ў С1–С4 мае быццё Еўфрасінні і Еўдакіі (Звеніславы) у манастыры пасля пострыгу апошняй: начаста пребывати в манастыри в единѹ мысль в молитвах ꙗже к Богѹ (С1).

Цікава, што пры апісанні пострыгу Градзіславы ў С1–С4 ужыта спалучэнне облещи ю в черьнеческиѧ (черничскиѧ, черныѧ) ризы, у П — постричи ю, пры апісанні пострыгу Звеніславы, наадварот, у П зафіксавана спалучэнне ωблещи ю въ чрънаіа ризы, у С1–С4 — постричи ю въ чръници, параўн.: повелѣ же блж҃енная иереωви ωблещи ю въ чрънаіа ризы и нарече имѧ еи еоупра҃ѯїа (П) — повеле иерееви постричи ю, и нарече имѧ ей євпраксиѧ (С1, С2); повеле їереωви постричи ю въ чръници. и нарече имѧ еи евдокїа (П) — повеле иерееви, огласивши, облещи ю в черьнеческиѧ ризы, и нарече имѧ ей євдокиѧ (С1) — повеле ю иерееви, огласивши, облещи в черничскиѧ ризы, и нарече имѧ ей євдокиѧ (С2).

Звяртаюць на сябе ўвагу некаторыя разыходжанні, зафіксаваныя ў разгледжаных спісах. Так, напрыклад, у П аўтар паведамляе: иωрданьскою водою ωблїавшисѧ по всемоу





тѣлоу. братоу ея дв҃дꙋ принесьшю. У С1–С4 падаюцца крыху іншыя факты: ї приидоша бывше на їердане и принесоша ей воды от їордана … и облияся по всемꙋ телꙋ своемꙋ (С1) — ї приидоша бывшии на їердане и принесоша ей воды їерданския … и облияся телꙋ своемꙋ (С2) — ї приидоша бывшии на їордане и принесоша воды от їордана … и обольяся по всемꙋ телꙋ своемꙋ (С3) — Приидоша же бывшии на єрдане и принесоша ей воды єрданскыя … и обольяся по всемꙋ телꙋ своемꙋ (С4).

Вывучэнне мовы асобных помнікаў паглыбляе ўяўленні аб характары літаратурнай мовы старажытнага перыяду, дазваляе вырашаць асобныя пытанні гісторыі мовы, выяўляе ўзаемаадносіны паміж мовамі. Каштоўныя звесткі для даследчыкаў мовы можа даць вывучэнне царкоўнаславянскіх рукапісаў. Ступень пранікнення ў такія тэксты элементаў роднай гаворкі аўтара знаходзілася ў прамой залежнасці ад яго граматнасці, адукаванасці, асабістай вывучкі. Таму, хоць для гісторыка-дыялекталагічных даследаванняў помнікі царкоўнаславянскай мовы даюць параўнальна невялікую колькасць інфармацыі, пры высвятленні пытання аб месцы ўзнікнення таго ці іншага спіса або аб этнічнай прыналежнасці яго аўтара звесткі такіх помнікаў становяцца важнымі і запатрабаванымі.

Моўныя асаблівасці П дазваляюць зрабіць выснову аб тым, што яго ствральнік строга прытрымліваўся выпрацаваных норм высокай царкоўнаславянскай літаратуры.

Адзначым некаторыя моўныя асаблівасці даследаванага помніка.

У П шырока прадстаўлены выпадкі зіяння галосных. Пастаянна ўжываецца а на месцы я ў канчатках назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў: прпдобныа ефросинїи, Прпдобнаа сїа єфросинїа, родися сїа прпдобнаа, вся краснаа мира, гл҃анїа ѡч҃я, метохїа ст҃ыа софїи, брачныа ризы, евдокїа, епспа диѡнисїа, ѿпоусти в келїа своя, бж҃їа агг҃ла видѣвши, мсца маиа. Аднак толькі з літарай я ўжываюцца склонавыя формы займеннікаў ея, нашея, своя:




отец єѧ, ѡ оученїи єѧ, братоу єѧ, в҆ келїа своѧ, оутѣшаше ѧ, ꙗко мт҃и дѣти своѧ, ѿпоусти в҆ келїа своѧ, оуспенїе прпо͠дбныа мт҃ре нашеѧ.

Рукапіс характарызуецца традыцыйным архаічным ужываннем ы, и пасля г, к, х: имѣ многы сыновы, съ многымъ рыданïемь, под҆виг постническыи прïимати, пакы, носити въ всѧ втор҆никы, але: ѡдигитрïю, геѡргïи, нарече имѧ єи євдокïа, сестрѣ своєи єв҆докïи; метохïа ст҃ыа софïи, кнѧгиню.

Вакалізацыя ераў у П не адлюстравана: сътворила єси, съз҆дати, съдѣласѧ, съч҆тати, съвръшена; въспитанïе, възраста, не въсхотѣ.

Мае месца аднаўленне паўднёваславянскага напісання ў групах тыпу *tъrt: въ чрънꙑа ризꙑ, въ чрьници, съвръшена, съвръшивьши, дръжати; ѿвръзены.

Зафіксаваны толькі няпоўнагалосныя напісанні: Градиславоу, въ градѣ, ѿ града.

У форме множнага ліку назоўнага склону назоўнік сынъ выступае з фармантам -ов- (яскравая прымета другога паўднёваславянскага ўплыву): имѣ многы сыновы.

Як лакальную моўную рысу разглядаем ужыванне канчатка -у ў форме меснага склону тапоніма Полоцкъ: бѧше бо кн҃зь въ градѣ полотьскꙋ. У старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове формы на *-у/-ю* набылі значэнне варыянтнай нормы, яны шырока адлюстраваны ў дзелавых, свецкіх тэкстах, а таксама ў рэлігійных помніках. Адзначана, што з гэтым канчаткам выступалі пераважна назоўнікі, якія абазначалі месца дзеяння і ўжываліся з прыназоўнікамі *въ, у, на, о, при* [1, с. 41–42]. М. Дурнаво вылучыў пашырэнне «формы *loc. sg.* на *-и* на імёны мужчынскага і ніякага роду незалежна ад характару націску» як характэрную марфалагічную рысу беларускай мовы [3, с. 172].

У давальным склоне зваротны займеннік мае форму собе: но точïю х҃а жениха собѣ нарек҆ши. Форму собе адзначаюць сярод характэрных рыс усходнеславянскай рэдакцыі старaславянскай мовы. Старабеларускае пісьменства характа-





рызуецца перавагай старажытных форм *тобе, собе* [гл.: 1, с. 103, 4, с. 191, 193]. Ужыванне ў П формы собѣ, на нашу думку, магло абапірацца на лакальную пісьмовую традыцыю і падтрымлівацца ёю.

Праведзены аналіз дазваляе меркаваць, што пры складанні даследаванага пролажнага жыція (П) яго аўтар або звяртаўся да некалькіх спісаў, якія ўзыходзілі да розных варыянтаў рэдакцыі Зборнікаў змешанага складу, або карыстаўся нейкім невядомым нам сёння пашыраным тэкстам, які таксама гіпатэтычна можна аднесці да рэдакцыі Зборнікаў змешанага складу. На нашу думку, спіс П найбольш блізкі да спіса С1. Лічым, што аўтар не проста скарачаў пашыраны тэкст, але і пэўным чынам перапрацоўваў яго.

Аўтар П строга прытрымліваўся правапісных норм царкоўнаславянскай мовы, у рукапісе даволі адчувальны другі паўднёваславянскі ўплыў.

Лінгвістычныя звесткі, сабраныя па паралельных чытаннях у спісах аднаго помніка, у перспектыве прадставяць грунтоўны матэрыял для дыяхраністаў, якія будуць займацца разнастайнымі аспектамі развіцця і функцыянавання агульнаўсходнеславяскай, царкоўнаславянскай, старабеларускай мовы і пісьменства.

**Літаратура**

**1.** *Булыка, А.М.* Гістарычная марфалогія беларускай мовы / А.М. Булыка, Е.М. Жураўскі, І.І. Крамко — Мінск: Навука і тэхніка, 1979.

**2.** *Воронова, Е.М.* Житие Евфросинии Полоцкой / Е.М. Воронова // Словарь книжников и книжности Древней Руси. Вып. I (XI — первая половина XIV в.). — Ленинград: Наука, 1987. — С. 147–148.

**3.** *Дурново, Н.Н.* Введение в историю русского языка. — Москва: Наука, 1969.

**4.** *Карский, Е.Ф.* Белорусы: Язык белорусского народа.




Вып. 2–3 / АН БССР. Ин-т языкознания. — Москва: Изд-во АН СССР, 1956.

**5.** *Мельнікаў, А.* З неапублікаванай спадчыны: Манаграфіі, артыкулы, вершы, матэрыялы навуковай канферэнцыі, успаміны сучаснікаў. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2005.

**6.** *Соболевский, А.И.* История русского литературного языка. — Ленинград: Наука, 1980.



# ЗВЕСТКІ АБ АЎТАРАХ

**Будзько Ірына Уладзіміраўна —**
кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай і рускай моў Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта (БНТУ), старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук (НАН) Беларусі.

**Булгакава Ганна Аляксандраўн**а —
аспірант кафедры рускай і замежнай літаратуры, выкладчык-стажор кафедры журналістыкі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта (ГрДУ) імя Янкі Купалы.

**Вашчанка Аляксандр Пятровіч —**
старшы навуковы супрацоўнік філіяла Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка (НПГКМЗ) — Краязнаўчага музея.

**Гайдук Галіна Віктараўна** —
даследчык гісторыі дакласічнага прыродазнаўства, геральдыкі, генеалогіі, творчасці Сімяона Полацкага.

**Дук Дзяніс Уладзіміравіч** —
кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры айчыннай і ўсеагульнай гісторыі Полацкага дзяржаўнага універсітэта (ПДУ).

**Захаранка Ігар Антонавіч —**
доктар геаграфічных навук, прафесар, выкладчык Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь.

**Званарова Лола Уткіраўна —**
кандыдыт філалагічных навук, акадэмік Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук.

**Ляўко Вольга Мікалаеўна —**
загадчык цэнтра гістарычнага даіндустрыяльнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

**Матушак Алена Юр'еўна —**
дацэнт кафедры гісторыі ўкраінскай літаратуры Харкаўскага нацыянальнага універсітэта імя В. Каразіна.

**Сазонава Лідзія Іванаўна —**
доктар філалагічных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры Расійскай акадэміі навук (РАН).

**Смірнова Кацярына Андрэеўна —**
малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута рускай мовы імя В.У. Вінаградава РАН.

**Шумовіч Алена Уладзіміраўна —**
загадчык філіяла НПГКМЗ — Музея беларускага кнігадрукавання.

**Ярмоленка Эльвіра Валер'еўна —**
кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела гісторыі беларускай мовы Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.



# ЗМЕСТ

Падсумаванне ... 3

**Будзько І.У.**
Старажытныя полацкія евангеллі-апракасы: лінгвістычныя і тэксталагічныя адметнасці ... 5

**Булгакова А.А.**
Топос Мир в «Вертограде многоцветном» Симеона Полоцкого: механизмы вербализации ... 19

**Вашчанка А.П.**
Рэфармацыя як спроба стварэння нацыянальнай царквы на Беларусі ... 31

**Гайдук Г.В.**
Истоки астрологического символизма в творчестве Симеона Полоцкого ... 41

**Дук Д.У.**
Жыццёвая прастора Полацка XVI–XVIII стст. ... 53

**Захаренко И.А.**
Востоковедная деятельность Симеона Полоцкого в решение проблемы «Запад — Восток» ... 97

**Звонарёва Л.У.**
Врачи и врачевание в виршах Симеона Полоцкого ... 111

**Звонарёва Л.У.**
«Город родил книгу…» (образ европейского города в творчестве Симеона Полоцкого) ... 129

**Звонарёва Л.У.**
Библейские герои, смерть и конец света в изображении Симеона Полоцкого ... 139





**Левко О.Н.**
Локализация и идентификация культовых объектов при раскопках средневековых городов на северо-востоке Беларуси ... 157

**Матушек О.Ю.**
Лазар Баранович — Симеон Полоцький: особливості комунікації ... 163

**Сазонова Л.И.**
Православная литургия в поэтическом творчестве Симеона Полоцкого ... 173

**Смирнова Е.А.**
«Проста мова» как элемент культуры Юго-Западной Руси XVI–XVII вв. ... 197

**Шумовіч А.У.**
Экспазіцыя Музея-бібліятэкі Сімяона Полацкага як адлюстраванне жыцця і дзейнасці Сімяона Полацкага ... 207

**Ярмоленка Э.В.**
Пролажнае «Жыціе Еўфрасінні Полацкай» (БАН Літвы, Пролаг на сакавік — май, F. 19/98): структура і моўныя асаблівасці ... 217

Звесткі аб аўтарах ... 229

# Сімяон Полацкі:
## светапогляд, грамадска-палітычная і літаратурная дзейнасць

(матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі 19–20 лістапада 2009 г.)

Укладальнікі:
**Шумовіч Алена Уладзіміраўна**
**Шульчанка Вольга Анатольеўна**

Карэктар: В.Я Ашуева
Дызайн-макет і вёрстка: С.Г. Урбан
Дызайн вокладкі: В.У. Гаўрылаў

Фармат 70x100$^{1}/_{16}$. Гарнітура «Cambria».
Тыраж 150 экз.

Макет выкананы на абсталяванні навукова-інфармацыйнага аддзела НПГКМЗ
211400, г. Полацк, вул. Ніжне-Пакроўская, 22.

